МІХАСЬ
КАЛАЧЫНСКІ

# ДА БЕРАГОЎ ЗАПАВЕТНЫХ

Кніга лірыкі

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1983

## НА ЧАЛЕ

Гадоў далёкіх кадры кінахронікі...
Парад на плошчы мнагалюднай
ля Крамля...
Прайшлі ў шаломах франтавыя коннікі,
Ў атопках гвардыя чырвоная —
пасля.

Затым на брук, хадою войск узрушаны,
Што к храму Васіля Блажэннага пралёг,
Рабочая дружына ўперад рушыла
У водсвеце сцягоў — ад галавы да ног.

Крок адбіваюць шэрагі упэўнена,
І позіркі Масквы — на самы першы рад,
Дзе ў кепачцы знаёмай
постаць Леніна —
Ён у дружыну ўліўся,
нібы ў строй салдат.

У контры дзесь збянтэжанасць адчайная:
Такога не прадбачыла, рыхтуючы бяду.
А ён ідзе!
Ён у Маскве ўзначальвае
Парад вясны і ўсёй гісторыі хаду!

## ДОМ У ВОДЗАРЫ СВІТАЛЬНЫМ

Днее ў Мінску.
З ліній магістральных
Прыцемкі ўжо змецены святлом.
Пазырчэў у водзары світальным
І над Свіслаччу музея дом.

Каля гмахаў
Нізкі дом драўляны
Прытуліўся да зялёных лоз.
Толькі ён, стагоддзям захаваны,
Славаю ўсе гмахі перарос.

Векам,
Дзевятнаццатым па ліку,
Летапіс вяршыў свае радкі.
Век наступны зараўеў і клікаў
Гнаць нядолю, гартаваць штыкі.

З векавечным
Цяжкавата біцца:
Гіне й смелых раць без важака.
А тады ж Ульянаў быў у ссылцы...
Як рабочы люд яго чакаў!

Пралетарыяў
На бой зацяты
Вабіў рэвалюцыі узбліск,
Іх радоў бунтарных дэлегаты
На з'яднанне з'ехаліся ў Мінск.

Без трыбуны,
Без сцэнічнай рампы
Гаварыў, і думаў, і спрачаўся з'езд,

За сталом пад абажурам лямпы
Ухваляў партыйны Маніфест.

А ў Сібіры,
Ў доме побліз Шушы
Пры такой жа лямпе па начах
Чуў Ільіч гром перамог у сцюжах,
Партыі высноўваючы шлях.

Шмат падзеяў,
Велічных і грозных,
З той пары адсунута ад нас.
Часу ж першаз'ездаўскага водзар
Свеціцца — ў гісторыі не згас.

Домік з'езда...
У цішы тут строгай
Маршы трыумфальныя гучаць.
Нездарма ён з плошчай Перамогі
Побач, да яе — рукой падаць.

## ПАСЛАНЕЦ ГУБКОМА

Няпролазь гушчароў бясконцых.
Балот змяіныя імшары.
Скрозь па закуццю балахоўцы,
Адчаем кінутыя, шараць.

Не спяць і багацеі ў вёсках,
Прысуд з абрэзаў свой выносяць
Тым, хто праводзіць харчразвёрсткі,
Знішчае лад церазпалосіц.

І ў глухамані той лясістай,
Дзе змрок,
Дзе кволых багна ловіць,
Адзінай стала камуністкай
Алімпіяда Багдановіч.

Адна на сем глухіх паселішч
Яна, губкома прадстаўніца,
Няўрымсна прагла праўду сеяць,
З няпраўдаю — рашуча біцца.

Адна, прыкрыўшы плечы хусткай,
Са старамодным рыдыкюлем
Ішла насустрач грозным чуткам
І падстаўляла сэрца кулям.

Чытала Маркса пры лучыне
І нас, сабраных з наваколля
Малых аплэвушаў,
Вучыла
Па тры зімы ў трохкласнай школе.

Мне і цяпер яшчэ здаецца,
Нібы ў яе вясковай хаце
Начамі свеціцца акенца,
Гады дваццатыя іскрацца.

## ГОРДАЯ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ

Я — камуніст.
І званняў больш высокіх
Не трэба мне, па шчырасці кажу.
Я гэтым—нашай святасці вытокам —
З адданасцю сыноўскай даражу.

Заслужана яно парой суровай,
Даверана супольнасцю салдат,
Як чужаземец хіжы ад Растова
Ірваўся на Каўказ і Сталінград.

Тады на грознай пад агнём паверцы
Я даў зарок сумлення Ільічу:
Калі надарыцца ў баі памерці,
То камуністам смерць прыняць хачу.

Лёс франтавы выгодаў мала зычыў,
Кідаў, як выбух трэску, у віры,
Дух гартаваў пякеллем навальнічным,
Ніколі славы лёгкай не дарыў.

Наплыў падзей той нецішы вайсковай,
Якую памяць здатна ўзварушыць,
Запісаны ў парткартачцы ўліковай
І назаўжды — ў нязрушнасці душы.

Я — камуніст.
Па званні ж анідзе я
Не меў, не дабіваўся прывілей.
Адна-адной была ўсё ж прывілея —
З людзьмі ісці,
жыць толькі для людзей.

Гадоў багата — падлічыце самі —
Прайшло, шугнула з ветрам за спіной.
Я перад партыяй трымаў экзамен
І прысвяціў імкненні сэрца ёй.

Дакладна выснуе гістпарт, магчыма,
Узважыўшы пражытага багаж,
Што не гады — эпоху залічыла
Жыццё ў мой ленінскі партыйны стаж.

## ДАРОГ УСІХ ПАЧАТАК

Перад нялёгкім на арбіту стартам,
Засланым невядомасці імжой,
Да Маўзалея крочаць касманаўты,
Каб з Леніным парадзіцца душой.

Стаяць суцішна, думы прыкаваўшы
Да спраў і рысаў родных Ільіча.
Грымотна бітвы і ўрачыста маршы
Ў душы са словам клятвенным гучаць.

А потым будуць стэпы Байканура,
Пах палыну, салодкі ім, як мёд,
І пад ракетай вогненная бура,
І праз зямное прыцягненне ўзлёт.

Наступяць перагрузкі, і бязважкасць,
І ўзбліскі сонца, і кругі ўваччу...
Але яны, хоць будзе вельмі цяжка,
Ўсё зробяць, як кляліся Ільічу.

З палёту вернуцца і крокам строгім
Да Маўзалея прыйдуць на граніт,
Затым — у Крэмль, адкуль усе дарогі
Вядуць да зорных і зямных арбіт.

## АДНА ЗАРУКА

*В. А. Клімаву*

Калі прыходзіць засмучэнне
Ці крыўда выпадзе ў жыцці,
Я думаю, куды хутчэй мне
І да каго зручней пайсці.

Раней к сябрам пайшоў бы проста,
Святло злавіўшы іх акон.
Ды не трымаецца сяброўства
На нітачцы ранейшых дзён.

Сябры даволі памажнелі,
Улезлі ў хамуты турбот,
А часам надта спаважнелі,—
Каго ж усцешыць мой прыход?

Магчыма, хтось паспагадае,
Далонню ляпне па плячы,
Разважыць моўчкі: сам не дбае,
Такому цяжка памагчы.

На тым — і кропка!
З кім жа зараз
Разладдзе думак спапяліць?
Іду, іду да камісара,
Былога, з ромбамі пятліц.

Я з ім сустрэўся ў час юнацкі,
Пад ведамам яго служыў.
Ён у байцоў лічыўся бацькам
І другам — кожным даражыў.

Любіў сумленных, духам мужных,
Віхлявых бачыць не хацеў,
Прыносіў часта жонцы ружы,
Дзівіўся, як зямля цвіце.

Стаяў за праўду ўпарта,
Чымсьці
Не сек слабейшага з пляча,
Быў чалавечным, бо вучыўся
Людзей любіць — у Ільіча.

## ПОМНІК НА ПЛОШЧЫ

Хоць і лютуе ўпарты студзень,
Стаіць зіма на ўсіх пастах,
Да Ільіча імкнуцца людзі,
Які на плошчы ў бронзе ўстаў.

Тут, не зважаючы на сцюжы,
Мароз, што цісне ўсё дужэй,
Яны кладуць жывыя ружы,
Агонь гваздзік з аранжарэй.

Паклаўшы кветкі, заміраюць
Перад абліччам дарагім,
Намеры й думкі з ім звяраюць —
Правадыром, між нас жывым.

Да іх падкрадваецца ў одум
Дыханне ўзвіхраных часін,
Гул барыкадны, дым паходаў,
І ціш палёў, і неба сінь.

І ўсё, што здзейснена,
І тое,
З чым мы ідзём на вабны кліч,
Ён цэніць мудрасцю сваёю
У еднасці з людзьмі Ільіч.

## ПРЫСЯГАЛІ НА ВЕРНАСЦЬ

На фронце
Пад барвовымі сцягамі,
Прабітымі бязлітасцю шрапнелі,

На вернасць Леніну
Салдаты прысягалі
У скавытанні посвістных мяцеліц.

Яны,
Да кумача прыклаўшы губы,
Агонь трох рэвалюцый адчувалі
І з імем Леніна,
Ў жыцці, ў паходах любым,
Спяшаліся на подзвіг нечуваны.

І на зямлі
Хтось падаў мёртва снопам,
А хтось згасаў,
Як промень на расінцы,
Ляцела ж конніца далей галопам,
Вышыні штурмам бралі пехацінцы.

Я з імі быў,
Хоць прысягаў не гэтак...
У дні, як свет рыдаў
Над Леніна труною,—
Ля школы сельскае з яго партрэтам
Стаяў, скаваны сцюжай і жальбою.

Не гаварыў —
Скавала горла гора,
Але правадыру ў той дзень зімовы
Душою кляўся,
Як дарослы ўторыў
Маўклівую прысягу сторазова.

Пранёс яе
Я праз усе нягоды,
Айчыны гонар бараніў без страху.
Вяла й вядзе нязломная заўсёды
Мяне адданасць ленінскаму сцягу.

* * *

Партсумленнем — вышэйшаю мераю —
Строга ўчынкі і прыкідкі мераю.

Сустракаю стазвонную раніцу,
З ім, сумленнем, даверліва раюся.

Спраў — не збыць,
і за ўсе я адказваю —
Роўна — кмет за рэдуты адказныя.

Адхіляю спакой: знаць не церпіцца,
Дзе вулкан маёй сілы спатрэбіцца.

Можа, там, дзе за плугам аратыя
Ці дзе станы грукочуць пракатныя?..

Я пайду, воін раці вялікае,
Серп вазьму, шчасце молатам выкую.

Веліч веку мой гонар узвысіла,
Па плячы з ім любая мне місія.

Горы зрушу, прамчуся арбітаю,
Раўнадушша з абжытасці вытуру.

Знішчу чэрствасць,
бясчуласць да каліўца —
Хай жыццё харашэе і славіцца!

Я магу ўсё, ўсё здолею вынесці
Па сумленню — закону партыйнасці.

## ПАКУЛЬ ЗЯМЛЯ Ў ЦІШЫ...

Ідзём у дальні бор праз поле,
Падпяразанае сцяжынай.
Барвовасць неба.
Траў раздолле.
Слых цішыня заваражыла.

Глухі спакой,
Але транзістар
Антэны-шчупальцы настроіў,
І разрываецца імглістасць
Над неабсяжнасцю зямною.

Чуваць з імглы —
Не спіцца свету:
Плятуцца змовы, ліхам страшаць,
Кішыць, трывожыцца планета,
Як разварушаны мурашнік.

У неспакойных рэгіёнах
Дымы ўстаюць,
равуць гарматы,
Экзаменуюць палігоны
Смяртэльны жах ракет крылатых.

І гнеў кіпіць,
І суд свой чыняць
Над ненавіснікам паўстанцы.
Перамагае Кампучыя,
Куюць мячы на бой афганцы.

І не антэна —
нашы сэрцы
Трывог дыханне пераймаюць
І ўсё, чым ліха адгукнецца,
На вастрыні сваёй трымаюць.

## НЕСПАКОЙ

Я чуйны да нябёс,
Да сну грымот,
Да мілагучнасці
Жаданых раніц,
Да ўсхліпу хмараў,
Кінутых на зблот
Неміласэрна
Хрыплымі вятрамі.
Я чуйны да зямлі,
Да смутку траў,
Нямога красамоўства
Дзікіх кветак,
Да слёз сасны
Ў падсочаных барах
І кнігавак —
Пад спёчным ветрам.
Я чуйны да ўсяго,
А болей да людзей,
Да тых,
Хто ў Мінску
Ці ў Адыс-Абебе
Жыве звычайнасцю
І святасцю надзей,
Трывогамі за мір
І клопатам аб хлебе.
Я клопат іх,
Трывогі іх нашу.
Яны з планеты ўсёй
Цякуць ка мне ракою,
Праходзяць востра
Праз маю душу,
Ні днём, ні ноччу
Не даюць спакою.

* * *

На беразе бязвоблачнага Крыма
У подзьмусе мяцеліц лісцвяных
Я назіраў,
Як вырай шызакрылы
Развітваўся з радзімай да вясны.

Пярэдні з птахаў
Сонцу пакурлыкаў
І, ўзяўшы дзюбай промні,
Пацягнуў
Няроўны шнур да паднябесных пікаў
Ды горка песню паўтараў адну.

Вышэй,
Усё вышэй за песняй,
Зляцеўшыся аднекуль, журавы
Па сонечнай спіралі лезлі,
Глытаючы бяздонне сінявы.

На сталасць дня
Кружыліся ў паветры —
Не вабіў, вольных, на чужыну шлях.
Далоні падстаўлялі ім Ай-Петры
І плечы — пачарнелы Карадаг.

Стагнала мора ад «кур-лы» старога,
Нястомнага ў палёце важака.
Шнур падраўняўся,
Ўзяў кірунак строга,
Павалі ў мутнай далечы знікаў.

Са мною ўслед яму
Шматлюдны бераг
Глядзеў, як заварожаны, ў журбе.

Радзіма-маці!
Хто тут не паверыў,
Што шчасця не бывае без цябе!

## ЛЮБУЮСЯ ТАБОЮ, БЕЛАРУСЬ

Век не магу табой налюбавацца,
І як прыспешыць
Падарожжаў час,
Па жвірных сцежках, што вялі з юнацтва,
Хачу яшчэ прайсціся хоць бы раз.

Вярнуся зноў у твой імглісты ранак,
І скроні сцісне боль —
не адвяду:
Ты стала вольнай, а ляжала ў ранах,
Адбіўшы інтэрвенцкую арду.

Грудзьмі ўдыхну твайго сталення подых,
Рамантыкі
Нерамантычны дым,
Знаёмы мне з імпэтных пяцігодак
І зараз блізкі сэрцам маладым.

Сустрэну ратнікаў тваіх не ў казках —
Суровай яве,
Дзёрзкіх і мажных —
У шынялях, вайсковай формы касках,
У кажушках каля кастроў лясных.

О як жа, Беларусь, не захапляцца
Тваёю славай,
Сённяшняй красой,

Разбегам ніў,
Зямным сузор'ем станцый,
Эпічнай задуменнасцю лясоў!..

Насустрач дню я заўтрашняму выйшаў,
І люба мне,
Што песня ёсць са мной.
Няхай вятры яе нясуць, калышуць
Пад родным небам вечнасці тваёй!

## ЗАВОДСКІ МАНАЛОГ

Прыспешвай час, світальная надзея,
Па вуліцах, авеяных вясной,
Вядзі хутчэй, пакуль усход ірдзее,
На вахту дня, к заводскай прахадной!

Мяне даўно, ад золкавай зарніцы,
Чакаюць там, сцішаючы няўстрым,
Сябры мае,—
Па строгасці лічыце,
Разраду міжнароднага майстры.

Чакаюць груды стылага металу,
І я іду — за крокам крок спарней.
Схіліўшы твар, над гулкім брусам стану,
З-пад рук ён пырскі сонцу сыпане.

Сімфонію іскрыстасці ў жалезе
Абудзіць рух, і на маіх вачах
Усімі гранямі праменна фрэзы,
Раўняючыся з сонцам, заблішчаць.

Я ім аддам агонь душы гарачай
І цвёрдасцю хачу іх надзяліць,
Каб здолелі стап сплаваў перайначыць,
З алмазамі ў суперніцтва ўступіць.

І недзе на адлегласцях няблізкіх,
Аж за марамі, скажуць людзі ўслых:
Якое дзіва кіраўцамі Мінска
Вышэйшай пробы створана для іх!

Вядзі ж мяне пад ясным небасхілам
Рупней, надзея,— ўжо на змену час.
Я рад, што стаў тваім у працы сынам,
Вялікасць веку — мой рабочы клас!

## КУПАЛА Ў ЛЯЎКАХ

Барвы ў росах прозалаць купала.
Туманы сівелі ля ракі,
Дзень марудзіў.
        Але ўжо Купала
З дому выйшаў —
        за спіной Ляўкі.

На выгодзе
Што ні крок, то — дзіва,
Кружыць бусел,
        зазвінеў жаўрук.
Перакат дняпроўскі зіхатліва
Кінуў водбліск промняў песняру.

І падзеі
Змрочнага былога
Ажылі над берагам Дняпра,

Прыгадаліся
Самотны Гогаль
і Шаўчэнка з думай кабзара.

Хвіля стрэчы
Ўзварушыла вусціш,
Луг расквеціў травяны абрус.
Хваляй звонка
Ўсплёсквае Славуціч,
Пошум абуджае Беларусь.

Ніў абсяг —
Як акіян бясконцы.
Над дарогай — ад машын дымкі.
І насустрач — вецер,
І насустрач — сонца,
І насустрач —
на жніво жанкі.

З дзіўнай явай,
З працаю спатканне!..
Думак вір — на ўвесь зваротны шлях.
Будзень вершам,
шчырасцю сатканым,
Пачынаў Купала у Ляўках.

## КУКАВАЛА ЁЙ ЗЯЗЮЛЯ

Шэрая зязюля
Сонцу кукавала,
І Дняпру,
І сёстрам-хвоям на дзядзінцы.
Слухаў яе моўчкі

У Ляўках Купала,
Быццам каля Вязынкі
колісь у дзяцінстве.

Паўтарала рэха
Птушчын гучны голас.
Абудзіўся вецер, дрэў галлё рассунуў
І непадалёку
Ў квецені вясёлай
Пераблытаў косы юнае красуні.

Светлыя жаданні
Ў дальні свет імкнулі:
Аб арліных крылах марыла дзяўчына,
Свае вёсны й леты
Услед за зязюляй
З тайнаю надзеяй пацішкам лічыла.

Стамілася птушка,
Куваць перастала,
Мала, дужа мала гадоў налічыўшы.
Крыўдна, сіратліва
І сумотна стала
Пад цяністым голлем прыгажуні
ўвішнай.

Зразумеў Купала
Крыўды той прычыну
І пячаць журботы на дзявочым твары.
Ён рашыў красуню
Ў смутку не пакінуць,
Акрыліць у песні лёс яе і мары.

Годы, чарадою
Ідучы, мінулі.
Пройдуць і стагоддзі
ў ветравеях весніх...

Як ты прагадала,
Шэрая зязюля,—
Вечна жыць дзяўчыне ў Купалавай
песні!

## ПЛОШЧА ПРЫЗНАННЯ

На колішняй мурзатай Камароўцы
Таўчы свой «мак» адвыклі камары,
Абновы ўсталі, і ў любой абноўцы —
Ці бляск металу, ці цяпло зары.

Фантаны б'юць,
І пырскаў шчодры роскід
Рукамі абліўцвелымі галін
Пяшчотна ловяць юныя бярозкі —
З дуброў на вахту гонару прыйшлі.

Зямля, што пад расхлябіцай рыжэла,
Пладзіла машкарыныя раі,
Ля мармуру вясной замуражнела
Гусцей, чым у бярозавым гаі.

Агледзеўшы наўкол прастор зялёны,
За досвіткам малінавым услед
Прыйшоў, бы некалі на родны Нёман,
Сюды, на плошчу, ў роздуме паэт.

І тут як тут — бывае ж так уранку —
Яго сям'іска з даўнішніх часін:
Талаш з Панасам, і Сымон, і Ганка,
Славутыя, знаёмыя усім.

У плошчы свой характар адмысловы:
Граніт метро суседам стаў прысад,

Адбіты ў вокнах гмахаў свет вясковы,
І ўсё хвалюе Коласа пагляд.

Глядзіць ён на будовы, на бярозкі,
Красу зямлі ацэньвае, мудрэц,
І чуе — блізка зазвінела коска,
Мурог абкошваць рупіцца касец.

Кашулю расшпіліў, за пояс — шапку,
Kacсё узяў у рукі,
І пракос,
Нібы радок у кнізе на пачатку,
Лёг роўна, ўсыпаны зіхценнем рос.

Спяшаўся ўсход
Паэту рань аздобіць,
З якою ён, як з мудрасцю, дружыў.
Нялёгка ў бронзе мудрасць увасобіць,
Яна — ў бязмернасці людской душы.

## КАРПАТЫ СЛУХАЮЦЬ «НЁМАН»

Грызе брусчатка колаў гуму,
Спіралячы на паваротах.
Маторы стомлены ад гулу,
Раз-пораз чмыхаюць: спякота!

Спыніцца час.
Усім прывалам
Займаем прыцемак цясніны.
Пагодны дзень.
Над перавалам
Адна хмурынка ў чыстай сіні.

Стаім і думаем: мо гэта —
Здань недалёкай навальніцы?
Так часам хмурыцца і Этна,
Страх прадвясціўшы сіцылійцам.

Стаяць больш нельга!
Ды над намі,
Ўгары, на вышыні арлінай
Карпаты абудзіў дынамік —
І схілы гор, і паланіны.

Напеў, да нотачкі знаёмы,
Вясёлкавы, як слуцкі пояс,
Пра бацьку нашага — пра Нёман
Даносіў Ворвулева голас.

Ён распахнуў наўшыр цясніну,
І змёў хмурынкі цень пагрозны,
З гнязда арла узняў і кінуў
Вышэй, пад небасхіл шырозны.

Прыціхлі гордыя бязмерна
Вяршыні стром, і скал бязлесных,
Высакамерная Гаверла
І то заслухалася песняй.

Ні слова больш аб небяспецы!
І боль душы, і думак яснасць
Крануў спявак, забраны смерцю,
Такой пакутнай і заўчаснай.

Плыў голас, шырыўся, пявучы,
Сцвярджаючы не смерць і тленне —
Вытокаў светлых неўміручасць,
Жыцця няспыннага гарэнне.

## ГАРАДОК НА РОСТАНЯХ

Срэбным хвалям грэбень вострьі мець,
Безупынна рухаць на азёрах воды!..
Ў руху, як яны, і Астравец —
Міжазёрны гарадок — заўсёды.

Брат Смаргоні і сусед Ашмян,
З доляю шчаслівай заручоны,
Ён нябёс праменнасцю аззян,
Хараством атулены зялёным.

Сосны, сосны... Колькі ні гукай,—
Праз гушчэчу голас не праб'ецца,
Хіба цягнікамі Гудагай
Гарадку з-за лесу адгукнецца.

Адгукнецца, прыйдзе даўніна
Праз Рымдзюны, Рытань ці Варняны,
Заадно ж — бамбёжкамі вайна,
Потым — громам волі партызаны.

Сум вякоў, гарчэйшых чым палын,
Ападзе, і выглянуць над Лошай
Домікі, к якім прыткнуты млын
Чапурыста прошласць прыхарошыў.

Хваляцца кварталы навізной
І віжуюць, лезучы ў вышыні,
Дзе страмчэй, чым журавы вясной,
Краны горда задзіраюць шыі.

На драўляных доміках ліштва,
Вязь карункаў — рута паміж зорак.
Побач адчуваецца — Літва
З дойлідствам, з адметнасцю гаворак.

Будзень тут — як свята,
Дзе запал
Свеціцца ў людзей святлом вясновым
І гучыць «Інтэрнацыянал»
На трох блізкіх, трох сугучных мовах.

## НА АРБІЦЕ КАВАЛЁНАК

Кавалёнак —
Ён нутром ад кавалёў,
Чарадзеяў горна, коўкага металу,
А яшчэ —
ад рупных сейбітаў палёў,
Чыя доблесць многім недасяжнай стала.

Почут некалі хадзіў, што кавалі
Гонар нашай Крупшчыне здаўна кавалі:
З бліскавіцаў — шаблі,
з промняў — ухналі,
Лемяхі — са стрэл, што перуны кідалі.

На заказ
Любы спраўлялі панарад,
Ды такі — заган не ведалі калёсы:
Груз кладзі з гару,
ляці, як птах, наўгад —
Граюць весялосць наструнена атосы.

Падкуюць зіме стаеннага каня,—
Конь ідзе па льду, нібыта па асфальце,
Ў лёд
падкоў зубцы ўразаюцца, звіняць —
Ладам іх музычным можна захапляцца.

Конь — не дзіва,
Хоць, як арэол, дугу
Нёс і сыпаў жаўрукоў вясёлых — бомы,
Кавалі ўзяліся б падкаваць блыху,
Як ляўшун-туляк, на ўсёй зямлі вядомы.

І патомным чарадзеям не ў дакор,
Іх сакрэт кавальскі ўзяўшы са скарбонак,
Паляцеў на повіды да ясных зор
Ён, зямляк мой —
Уладзімір Кавалёнак;

Па арбіце
Над планетаю снаваў,
У бязважкасці выкоўваў тайнаў сплавы
І да гонару дзядоў сівых дадаў
Эпапейнасць важкую касмічнай славы.

## КУТОК ЗАПАВЕТНАСЦІ

Старыя помняць дом яшчэ
Над рэчкай за млынком,
Дзе потым тлела вогнішча —
След чорны чужакоў.

Сягоння ж не знянацку я
Наведаўся сюды:
Куток радзімы бацькавай
Маёй душы — святы.

Забытае прыстанішча...
Далёкія гады...
У сельскага настаўніка
Хапала спраў заўжды.

Ён цешыўся за выганам
Вярбой, агнём рабін,
Не расставаўся з кнігамі,
Цяслярнічаць любіў.

Хадзіў часцютка раніцай
Сумотны на раку
З сялянамі параіцца
Ў завозе пры млынку.

Дзяліўся з імі думамі
І скардзіўся на лёс.
Нярэдка ў спрэчкі шумныя
Ўступаў увесь завоз.

А млын цяжкімі жорнамі
Зярняты й час малоў,
Каб шчасце тут пад зорамі
Паводкаю гуло.

* * *

Палюбіў я, прызнаюся, змалку
Перазвон пад мянташкамі кос,
Водар жыта, барвяністасць макаў
І цнатлівую шчырасць бяроз.

Свет здаваўся душы непаўторным:
Думнасць лесу, ў тумане стагі,
Сінь пагоркаў у россыпах зорных,
Песня жней з адгалоссем тугі.

І, ручаюся, з іх пачалася
Да Радзімы святая любоў,

Каб сталець, акрыліўшыся ў часе,
І прыняць з лютым ворагам бой,

І пранесці ёй вернасць у сэрцы
Праз нягоды, смяртэльны агонь,
Потым — стаць на армейскай паверцы
Пад зарой пераможных сцягоў.

## Я КЛАНЯЮСЯ ВАМ, ЛЯСЫ

Паклон вам нізкі,
Шчодрыя лясы,
Ахоўнікі святой
Зямной красы,
Таемнай
Пад вятрамі шапатні,
Баравіковай
Цёплай цішыні.

Паклон мой
З незабытных дзён вайны
Барам,
Што прыхавалі буданы,
Кашлатым пушчам
У дымах кастроў,
Дубам вячыстым —
Вартавым дуброў.

Паклон, лясы,
За ваш узлёт да зор,
Ніколі вас
Не здужае

Віхор:
Як сэрцам я,
Карэннем вы ўраслі
Навечна ў нетры
Роднае зямлі.

## КРЫХУ АБ УРБАНІЗАЦЫІ

Быт ладкуем свой,
як гараджане,
Адыходзім ад звычак сяльчан,
Праўда,
Думаем і пра ўраджаі,
Пра рачулкі і лядьі ў карчах.

Сочым,
Дзе ўжо зажынкі згулялі,
Дзе марудзяць ці льюцца дажджы.
Засланілі ж спакой «Жыгулямі»,
Лепім з белых цаглін гаражы.

Хлеба смак ухваляем у краме,
А калі б,
Як вялося з вякоў,
Бохан звэндаць задумалі самі,
Насмяшылі б да змогі бацькоў.

Шчодрасць ніў яны болей цанілі,
З весніх высеваў
да малацьбы
Хлеб люлялі рукамі сваімі,
Ненавідзячы бесхваль гульбы.

Мы таксама
Прыхільнасць да працы
Беражом,
б'ём паклоны зямлі,
Хаця з векам урбанізацыі
На інакшы рэжым перайшлі.

Нас у здрадзе старым запаветам
Не вініце,
Дзядулі й бацькі:
Вёску мы не зжываем са свету,
А вядзём на пасад гарадскі.

* * *

Каштаны развешваюць наквецць
Дазор ля дарог несучы.
Над полем,
у ліўнях намяклым,
Пасуцца гурты аблачын.

Абсяг не акрэсліўся небам,
І хто куды хоча — ідзі!
А я — песнятворац,
мне трэба
Мець свой накірунак адзін.

Жыву запаветным на свеце —
Людзей дабрынёй адарыць,
Прыдумаць ім песню
і сэрцы
Іскротнасцю слоў азарыць.

Мой выбар святы і нялёгкі,
І здзейсніць цяжэй мне намер,
Чым, можа быць,
галас далёкі
Вярнуць з малалецтва цяпер.

Я ж песню складу,
Я з любоўю
Людзям распазычу яе.
...Паэт — як салдат,
ён без бою
Пазіцый душы не здае.

## ЖУРАВІНЫ НЕ ЎЗЫШЛІ...

Гэта жарт.
Хіба што на вяселлях
Пелі пад хмяльком веселуны,
Быццам нехта журавіны сеяў,
Як у стэпе сеюць кавуны.

Хопіць жартаў. З крыўдаю і звягай
Мусім гаварыць усё часцей:
Не знаходзім паважаных ягад
Нават там, дзе рай быў для чарцей.

Мшанішчы сівыя — не прынада
Для царыцы ўслаўленай балот.
Журавіны ўжо вязём з Канады,
Праўда, не на морсы — на расплод.

Хутка будзе морс для ўсіх навінкай
І ў харчпрома — выгады няшмат:

Цэняцца прыватна журавінкі
Даражэй, чым крымскі вінаград.

Можа, верш мой к абнаўленцам прыйдзе
Векавых балот і балацін.
Пры асушцы іх, прашу, пакіньце
Неруш для прыпіскі журавін.

## ПАРАЛЕЛІ

Да славы рвёмся,
Зайздрасці мячы
Не раз скрыжоўваем — ну й мушкецёры!
Пра малазначнасць некага крычым,
Сваю прыкрыўшы пышнасцю рыторык.

Але ў непрыкмецъ
Праляцяць гады
І сцвердзяць,
свет прымусіўшы згадзіцца,
Хто скарбы здабываў з цяжкой руды,
А хто з авеек — шуматню амбіцый.

Такім бы
Паралелі я прывёў:
Лепш у жыцці, што налапам пачата,
Малавядомым быць — як Каралёў
І самаахвярным — як Курчатаў.

## БАРВОВЫ ЗНІЧКІ СЛЕД

Невыяўная і недаступная
ні вачам тэлескопаў,
ні здагадкам мудрэйшых вучоных,
ні ўяўленню іншапланетцаў
зорка ў нябесных вышынях
сарвалася з месца
і паляцела
ў ноч,
у невядомасць адчайную.
Не проста ляцела,
а пакідала
след за сабою барвова-агністы,
быццам праводзіла рысу,
апошнюю рысу
апошняй хвіліны свайго існавання.
Свяцілася шчодра
яна не звычайнай—касмічнаю радасцю,
гарэла ўся,
вогненным сэрцам распаласоўвала
далеч надземную,
змрок раўнадушнасці,
што акаляў яе вечна,
не даючы праявіцца,
стаць зыркай,
бліскучай,
вядомай сусвету.

Мо зорку паспеў ужо нехта
зніклай назваць,
у разрад тагасветных паставіць,
але дапусціў ён памылку:
людзі той часткі паўшар'я зямнога,
з якой пачала адлічэнне
касмічная эра,

крочачы,
хто на начныя рабочыя змены,
хто на пасты пускпляцовак ракетных,
хто на сустрэчы каханых,
пазадзіралі ў паветра галовы,
дзівіліся водсветам зорным,
водсветам самаахвярнасці
і
самавыяўлення.

Не выпадкова адразу ж
на водсвет,
мільёнамі аблюбаваны,
нацэлілі
вочы свае тэлескопы,
мудрасць сваю астраномы-зямляне
і, можа быць, іншапланетцы,
а людзям паэт адмысловы,
цвярозы,
як ранняя роснасць,
сцвердзіў,
праводзячы позіркам знічку:
пачэсней згарэць на ляту вокамгненна,
чым тлець,
плетучыся самотна да скону!

Ён рацыю меў, напэўна...

## МАТЧЫН КЛОПАТ

Да зары ранюсенькай узняцца,
Не ўпусціць, як дзень пачне займацца,
Трэба!

Паглядзець, мо завязь ёсць на вішні,
Мо гурочкаў парасткі ўжо выйшлі —
Трэба!

Свежае набраць вады з крыніцы —
Хоча ранак пад зарой умыцца —
Трэба!

Падаіць карову і ў даёнцы
Цёплае з двара прынесці сонца —
Трэба!

Разбудзіць дзяцей — яны ж снапамі,
Як пападалі, ўсю ноч праспалі —
Трэба!

Радыё паслухаць на дасвецці,—
Што ж там робіцца на белым свеце? —
Трэба!

## НА ДАКОСКАХ

З двара за стол запрошаны,
І чуваць у хаце:
«Ці ўсе лугі пакошаны?
Ці ўсе сенажаці?..»

Як бы тады спявалася,
Хто б меў тое права,
Каб дзе заставалася
На лугах атава?

Ніхто б з тых у погулле
Не лез з-за парога,
Хто ледзь рабіў ці ўвогуле
Не рабіў нічога.

Няма такіх ніводнага,
Нядбайства — ні следу:
З кантролю хай народнага
Праверпічыкі едуць...

## КАПІТАН САВЯНОК

У ботах армейскага крою,
Падбітым вятрамі плашчы
Ён полем ідзе пад зарою,
Дзе тупалі ўчора дажджы.

Высокае светлае неба.
Прыволле — ісці любата.
Камяк набрынялае глебы
Бярэ з баразны капітан.

Бліжэй для агледзін падносіць
Скарб долаў, сагрэтых цяплом.
Ляціць жураўлі́ная восень,
Махаючы лету крылом.

Палі сустракаюць армейца
Дыханнем лагоднай цішы,
І радасцю поўніцца сэрца,
І светла ад дум на душы.

Але ён прыжмурыўся нешта:
Трывожна вятры загулі,
І попел руін Будапешта
Спякотна душу апаліў.

Тады, на марозным світанні,
Як вораг ірваўся з «катла»,
Байцы з капітанам усталі
І ніпічылі злыдняў датла.

Ён плашч і армейскія боты
Пасля таго бою бярог,
У іх з-за Дуная, з грымоты
Вярнуўся на родны парог.

І хто пра яго запытае,
Скажу тым, адвёўшы падман:
Ён быў на вайне капітанам
І тут, на палях,— капітан.

## АДДАЛІ ДЗЯЎЧЫНУ ЗАМУЖ...

Да суседкі не без дай прычыны
Апаўдні сабраліся жанчыны.

Моўчкі ля стала пустога селі,
За якім гулялі на вяселлі.

Папраўляюць фартухі і хусткі,
Гаманок развязваюць ціхуткі.

Аддалі, хоць сваталі не самі ж,
Як сваю, дачку суседкі замуж.

Ой, была дзяўчына! —
Не пястушка,
Рупная ды порсткая, як птушка...

Так спявала, так скакаць хацела!
Рана ж, рана з дому паляцела.

Чуць вяселле музыка дайграла,
Маці па дачцы загаравала.

Спаць — не спіць.
Не есць, не п'е ў самоце —
Не было з паўдня й расінкі ў роце.

Спачуваюць ёй жанкі:
Вядома,
У свякрухі — не ў матулі дома.

Позна там не ўспіш, не пагуляеш,
Песень па душы не наспяваеш.

Пад страхой замужжа — рай не наскі:
Многа строгасці і мала ласкі.

Толькі марна нудзяцца кабеты:
Зычыў лёс нявесце жыць не гэтак.

Па любві быў шлюб, і пойдзе
У сям'і ўсё ў радасці і згодзе.

## НАЧЛЕГ У БЫЦЕНІ

*М. Грынчыку*

З сябрамі раз у Быцені
Я летам начаваў.
Дождж вырашаў, ці быць, ці не,
Ды свой уток снаваў.

Нас гаспадар гасціннасцю
З дарогі адарыў,
Пра любы край з дасціпнасцю
Застоллю гаварыў.

Ён, гэты край, над Шчараю
З імглы ўставаў сівой
Былиннымі абшарамі
І Быценскай царквой.

Свяціўся дзівам-казкаю,
І мудрасцю дзядоў,
І славай партызанскаю
Нядаўнішніх гадоў.

Маланка ў небе жыгала,
Ноч гонячы з двара.
Нам на акне падміргвала
Чырвоная герань.

Вачэй бяссонных позіркі
Ацеплілі тады
І рук гарачых поціскі,
І дружбу — назаўжды.

## ДУШЫ ТАКОЕ ПРАДЧУВАННЕ

Душа ў трывожным прадчуванні,
Няцяжка выказаць — чаму.
...На лузе гусі начавалі
Пры пералёце на зіму.

А нейкі выскалпень падкраўся
Да пералётных пад імжой.
Па чарадзе, як дзень займаўся,
Ён разрадзіў сваё ружжо.

Важак стары ўзляцеў
І высям
Даверыў крылы, дужасць сіл,
А першалетак біўся, біўся
Над лугам голым і нямым.

Цуг пацягнуўся анямелы
Насустрач раніцы, вятрам.
Зямля маўчала,
І вісела
Над ёй крывавая зара.

Дзень захліснуўся чорным сумам,
Які і дужых долу гне.
А я стаяў...
Я ў гневе думаў —
Той хіжы цэліўся па мне.

Ён мне,
Як злыбедзень на фронце,
Пакінуў стрэлам сум бядот.
Павер, душа: цяпер праходзіць
Праз нашае сумленне фронт.

## ІСЛАЧ

Сляза славянства...
Пэўна, Іслач,
Інакш цябе не назавеш?
На свет з яго зямель ты выйшла,
Па іх слязінаю цячэш.

Не дужа твой разгон шырокі:
Бліснуўшы ў ложбаве яроў,
Спяшаешся да Налібокаў
З прыціхлых ракаўскіх бароў.

Падзей ты ж зведала нямала,
Віхурных з лязгатам клінкоў,
Разгулам чорнае навалы,
Бясслаўнай смерцю чужакоў.

І ад таго ў прырэчных стромах
Не каламуцяцца віры,
Іграюць промні, коцяць гоман
Палеткаў жнівеньскіх вятры.

А на пагорку ля Падневіч
Пад васільковы ўсплёск вясны
Спіць слынны Дунін-Марцінкевіч
І сніць аб яснай яве сны.

## ЮБІЛЕЙ

Вестачку прынёс у хату чмель,
Немасць, захаваную ад гукаў.
Крыльцамі скрануў,

Затым гучней,
Шыбы атакуючы, забумкаў.

Бумкалу адклікнулася шкло,
Бліснула —
І вокам не прыкмеціш,
Дзверы расчыніліся ў святло,
Падхапіліся з пасцеляў дзеці.

Гаспадыня дровы чапялой.
Падштурхнула, запаліла ў печы
І, чмяля пачуўшы,
Голас свой
Падала крылатаму малечы.

Дзед бяссонны,
Па натуры — хват,
Ажывіўся з праўнукамі,
Успомніў:
Звон чмяліны... больш ста год назад
Чуў упершыню той звон, як сёння.

Юбілей у дзеда...
Юбілей
Не абы-які, відаць,— сто пяты.
Звоніць чмель, і ўсё смялей, смялей
Гамана дужэе каля хаты.

Колькі люду!..
Тут і мал і стар.
Двор — што вулей у гудлівым стане.
Выйшаў, стаў на ганку юбіляр,
А здалося —
стаў на п'едэстале.

## ЗАЛАТЫЯ БАРАВІНЫ

*Акадэміку К. П. Буславу*

Тэлевізар ды радыё —
Дамаседства сябры.
А нас горача радуе
Вандраванне ў бары.

Тут не хмельнасцю віннаю
Насычаецца кроў —
Цішынёй баравіннаю,
Цеплынёй вераскоў.

Пойдзем вузкімі сцежкамі
Пад суцем'ем галля,
Дзе цвіце сыраежкамі
На світанні зямля.

Нам са смужнай суцеміцы
Падміргне асавік,
Паказацца асмеліцца
Цар грыбны — баравік.

Мы такому паклонімся,
Бо вялікасць яго
І кароны сароміцца
І без трону свайго.

Таямніцы ёсць строгія
Ў баравін залатых.
Маці дзіў — філасофія
Мае доступ да іх.

Грудзі воляй расхрыстаны,
У сэрцы одум пранік:

Нараджаюцца ісціны
З парадоксамі ўстык.

Недзе ў залах палеміка,
Точаць незгадзі нож.
Хай сабе!.. Ў акадэміка
Доказ — свежынцаў кош.

Гучна рэха галёкае,
Кліча ў існасць нябыт
Або шчасце нялёгкае,
Чым грыбнік знакаміт.

## ЗАДУМЕННАСЦІ ТАЙНЫ

Пахне венік бярозавы,
На зіму зберажоны,
Спелым чэрвенем, росамі,
Шаўкалісцем зялёным.

Перавіты лазінаю,
Ўзяў сабе ён на сховы
Кірмашовасць птушыную,
Задуменнасць дубровы.

Ўзруш яе, і адкрыюцца
Задуменнасці тайны,
Лес дрымучы раскрыліцца,
Ветрам злым разгайданы.

Павядзе цябе сцежкамі
К буданам заімшэлым,
Што служылі начлежкамі
Мсціўцам — воінам смелым.

І кастрамі засвеціцца
На сумотным прывале,
Дзе забітых
пры месяцы
Партызаны хавалі.

Тых абудзіць навокала,
З кім сустрэў сваю волю...
Памяць часу далёкага
Не згасае ніколі.

## ТОЛЬКІ ПЯЦЬ ХВІЛІН

Шчабяталі ластаўкі на зары,
Шчабяталі, седзячы пад страхой.
Мы гуртом спыніліся на зыры,
Галасіста-жвавыя, як віхор.

Дню праменны кінула сонца мост
Над зямлёй, над стрэхамі сонных хат.
Птушкі павыпырхвалі з цёплых гнёзд,
Срэбра рос кацілася з траў, з прысад.

Не будзілі воддалеч галасы,
З ёю мы сталіся ў цішыні,
Слухалі світальны звон расы,
Перашэпты раннія ціхіх ніў.

Пагарб не трывожыўся травяны,
Безмяцежнасць досвітку свет хваліў.
Між тым заставалася да вайны
Пяць хвілін.

## ДАКОР

Зрабіў я не ўсё,
Што хацеў бы, сябры,
Зрабіць за гады маладосці.
І некаму песню
Не ўспеў падарыць,
І ў песні не выказаў штосьці.

Не выгнуў у кузні
Падковы каню,
Дугу для вясельных раз'ездаў,—
Няхай бы ляцеў
І зыркатай агню
Дзівіў жаніхоў і нявестаў.

Не вырасціў кветку
Пад родным акном
Матулі любімай на радасць
І мудрага дзеда,
Сівога, як гном,
Не выслухаў нейкай парады.

Прызнацца ў каханні
Дзяўчыне не змог,
Якая прызнання чакала,
Хоць шчырасць пачуццяў
У сэрцы бярог —
Такое не хутка знікае.

Не ўсё я зрабіў.
І за гэта віну
Ўзяць трэба падзеям трывожным:
З юнацтва я першым
Пайшоў па вайну,
Вярнуўся з вайны той апошнім.

# СУРОВАЯ ПАМЯЦЬ

Суровая памяць,
Як праўда, святая
Ў часіну навалы
Пачуцці вяртае.

Акрэслены будзень
Жыцця франтавога:
Равуць бамбавозы,
Пыліцца дарога.

Апалена сонцам
Кавыльная безмеж,
Паўсвету — не меней —
У стэпе размесціш.

Стэп, зглумзданы горам,
Здаецца іржавы,
Армады вайны
Для змагання зближае.

Нацэлены пікі
Баварскіх і прускіх
Адборных дывізій
Да змоўклага Курска.

Акопна-траншэйны
Фронт курчыцца ў зморы,
Разлёгшыся спрутам
Ад мора да мора.

Да фронта з рэзерваў
Падцягнуты танкі.
Грымяць артабстрэлы,
Ідуць контратакі.

Да светлых трыумфаў
Пакуль што няблізка.
Чужынцы не выгнаны
З Новарасійска.

Пад ім на плацдарме
Рацъ мужная б'ецца —
З'яднаныя Брэжневым
Малазямельцы.

Яшчэ ліхадзейства
Вынашвае вораг,
Турыць яго трэба
Праз стэпы
                і горы.

І ў Стаўцы галоўнай
Разважлівы Жукаў
Да карты рашуча
Працягвае рукі.

Чужынца на карце
Змыкае рукамі,
Каб дыхалы з наступам
Сцяць абцугамі.

Грымота наспела.
Разгортваюць карты,
Рыхтуючы бой,
Маладыя камбаты.

Пяхота пазіцыі
З ходу займае,
Ад стомы і пылу
Сівая-сівая.

Равуць бамбавозы...
Дыміцца дарога...
Прыслухайся, памяць,—
Ідзе Перамога!

## ТРЫМАЕМ АБАРОНУ

Быццам даўнасць,
Стары
Бор на нашай пазіцыі
Пасыпае жвіры
Залатою іглiцаю.

Май цвіце, а кукуль
Не чуваць нешта раніцай,
І пад ціўканне куль
Край лясны прачынаецца.

Кулі ў нас на вачах
Дол дзяўбуць,
Змейна сыкаюць.
Б'е, каб наступ пачаць,
Вораг з лютасцю дзікаю.

Але ўсталі, як раць,
Сосны, ў медзь апранутыя,—
Абарону трымаць
Будуць з намі, магутныя.

І ледзь хлыне сюды
Вораг, злосцю падхоплены,
Скосім хіжых рады
Перад іх жа акопамі.

Ўпіўся ў нетры зямлі
Лес, карэннямі сплецены,
Як і ён, прыраслі
Мы навечна к ёй сэрцамі.

## НОЧ ЗАДНЯПРОЎСКАГА ПЛАЦДАРМА

Славуціч імкліва ў пырсках
Плынь гоніць, як гнаў здавён,
З прадмесцяў Днепрадзяржынска
На поўдзень бярэ разгон.

Да мора ляціць, да мора,
Дзе хвалям вальней крутым.
Чакае й рабочы горад
Волі ў палоне чужым.

...Без грывак сівых градзірні,
Над цэхамі — каміны.
Месяц, святлей ад грыўні,
Глянуў, і ў — змрок начны.

Прастора шчыльней стыкуе
Прасветы асенніх хмар.
Чакаў, мусіць, ноч такую
З камдзівамі камандарм.

Ля Харкава і Палтавы
Сніў ён пад гул кананад
Горад на беразе правым
У шапаценні прысад.

Ён знаў, камандарм Глаголеў,
Што войскі сюды ідуць
З клятвай — Дняпро разняволіць,
Волю Украіне вярнуць.

Славуціч, Славуціч родны,
Скажы, прашумі вадой,
Каму ўсё ж з калон паходных
Ты лёс уручаеш свой?

Ты прадчуваеш, Славуціч,
З адважных найперш каго
На гулкіх вірах закруціш —
Тысячы ці аднаго?

Тысячы...
Колькі ж патрэбна?..
Зноў прамільгнула якраз
Месяца грыўня срэбна,
Адмераўшы цемры час.

Цемра — хаўрусніца зараз:
У нетрах такой начы
Не змог бы й ставокі аргус
Ворагаў усцерагчы.

Прыцішыўся плёс дняпроўскі —
Падручны ў гатоўнасці флот.
І рынуў Сяргей Шпакоўскі
Са ўзводам у кіпень вод.

Тут рызыка — тых багіня,
Каго не супыніць смерч,
Хто мужна ў баі загіне,
Альбо пераможа смерць.

Не хіліць на сон камандарма.
Бяссонніца і ў штабоў:
Адчалілі... Можа, марна?
Маўчаць... Завязалі б бой!

Наструнены туга нервы.
Зрок за арліны вастрэй.
На бераг палонны зеўрыць
Змрок пашчамі батарэй.

Пад поўнач падзьмуў вятрыска.
Некалі ў час бы такі
Азваліся з Днепрадзяржынска
Змены апошняй гудкі.

Ды дзе там?! Безгалас душыць
Горад, ваколіцы, ноч.
Пасёлак Аулы душы
Вярэдзіць байцам даўно.

Сюды, як на карце стрэлы,
Нацэліў узвод штыкі.
І рызыка — маці смелых —
Выводзіць дэсант з ракі.

І грымнуў, глушачы гулам,
Па злыднях з плацдарма ўдар.
На карце абвёў Аулы
Яркім кружком камандарм.

Ён, ловячы грозны віскат,
Адчуў, як заўжды ў баях:
Ключы
ад Днепрадзяржынска
У нашых цяпер руках.

## НАДЗЕЯ

Раптам фронт
Цішынёй захлынуўся,
П末ратомлены ад кананад.
Ноч ляціць.
Мы не спім — не вярнуўся
З разведрэйда
харобры салдат.

Пахмурнеў
Заклапочаны ўзводны,
Хоць на фронце
Прывык не тужыць.
І самотна на нарах
Паходны
Скарб салдата
Ў зямлянцы ляжыць.

Дбайна складзены рэчы —
Аб смерці
Ён не думаў,
хрышчоны вайной.
Побач ліст,
На трохкутным канверце
Адрас той жа —
дзяўчыне адной.

Панясе яго —
Верым, не знікне! —
Лёгкі вецер
З дарог франтавых,
І дзяўчына
Ад радасці ўскрыкне,—
Маўляў, хлопец ваюе, жывы!..

Можа, так,
Можа, будзе інакш,
Толькі мы
Позніем часам не спім,
І разведчыку
Зычым удачы,
І ўсё верым — сустрэнемся з ім.

Ты не гасні,
Надзея такая!
Ёсць прыкмета
Адна для таго:
Хто харобрага
з бою чакае,
Той сустрэне героем яго!

## КЛЮЧЫ ПЕРАЕМНАСЦІ

Позвы мне не шле ваенкамат,
Не збіраецца ў казармы клікаць.
Я даўно ўжо, той вайны салдат,
Спісаны з вайсковага ўліку.

Стаў пад сцягам нехта за мяне,
Са статутным зжыўшыся рэжымам,
Ці паўзе, пластун, па цаліне,
Грукат бою чуючы, магчыма.

Нехта выслухоўвае, чым свет
Дыхае ў бяссонніцы трывожна
І гатовы чуйнасцю ракет
Прыступ ліха папярэдзіць грозна.

Клопатаў нямала ў маладых,
І не дрэмлюць пад ружжом армейцы.
Я таму спакойны, як заўжды:
Ратнасць баявая — на лінейцы.

Чорныя агрэсій крумкачы,
Помніце: у нас парадак строгі —
Змене мы перадалі ключы
Ад здабытай намі перамогі!

## ЛЯ ПОМНІКА МАРАТУ КАЗЕЮ

Не здаюцца такія зацятыя,
Самаахвярныя да забыцця!..
Адрывалі з рашучасцю ратнаю
Ад зямлі сябе і ад жыцця.

Выклік кінуўшы ворагу, помнілі:
Лепш загінуць, чым скутым жыць.
Смерцю славу харобрых поўнілі —
Над планетай яна гучыць.

Не бравада, а воля жалезная
Дух узрушвала юнакоў.
Іх адвага, учынасць гарэзная
Ў бронзе выліты — для вякоў.

## ЗВАНЫ ГНЕВУ

Да пліт падыдзі, застынь,
Прыслухайся, як з вайны
Будзільнікі б'юць — Хатынь
Будзяць трывожна званы.

Над месцішчам хат звіняць,
Тут гнеў і мальба чутны:
Годзе так доўга спаць,
Жахлівыя бачыць сны!

Пара адчыняць двары,
Выходзіць у ранні свет! —
Цяпельца суніц гарыць,
На бульбе — ліловы цвет.

Будзільнікі б'юць штодзень,
Куток жа лясны аціх,
Не дабудзіцца людзей —
Нікога няма ў жывых.

Гнеў, пальцы ў кулак сагні! —
Жах смерці прынёс свінец
У Лідзіцы і Сангмі,
У Пірчупіс і Трасцянец.

Ніколі з магіл, з-пад куль
Хатыні лясной не ўстаць.
Людзі ідуць адусюль
Доўг памяці ёй аддаць.

Доўг слёзны...
Каб па слязе
Ўзяць з попелу хатынян,
Стварылі б, зліўшыся ўсе,
Гневу людскі акіян.

І ўздыбам валоў адным
У бездань ён тых бы знёс,
Хто прагне яшчэ вайны,
Смерці, пажараў, слёз.

## ЗАПАВЕТ ВЕТЭРАНА

Разбег жыцця ідзе на спад.
Не, смерць, пабудзь за брамай!
Хачу памерці, як салдат,
У полі пад вятрамі.

Закон салдацкі ёсць такі:
Ўпаду — не варушыце,
Павекі звёўшы, пятакі
На вочы палажыце.

Пакуль кроў будзе халадзець,
Не кратайце манеты —
Няхай чаканеная медзь
Глядзіць у вечнасць свету!

## НАПАМІНАК

Прыйдзе ён нечакана
З красавіцкай грымотай,
З песняй той, што спявана
На прывалах пяхотай.

Да душы дакранецца
Незнарок, асцярожна,
І душа ўстрапянецца
З неспадзеўкі трывожна.

Хмурна ссунуцца бровы,
Вочы ўдалеч заглянуць,
І палі і дубровы
Паплывуць, бы з туману.

Пацякуць па маршчынах
Слёзы горкага болю,
Слёзы ўдоў па мужчынах —
Не вярнуліся з бою.

Звычнасць зменіцца святам,
Дзетвара заляпеча,
Усё ж на сэрцы салдатак
Ран нічым не залечыць.

І ў зіхценні расінак,
І ў салютах грымучых
Пра вайну напамінак —
Самы, самы балючы...

* * *

Сумата не ведае бяссілля,
Падбярэцца —
хіліць да зямлі
Нават тых, каго вятры касілі
І скасіць, адужаць не змаглі.

Плачуць,
Ім кукуючы, зязюлі
Па нязбытай слёзнасці удоў,
Па тваёй бядзе, мая матуля,
Па няўцешнасці цяжкіх гадоў.

І байцы былыя хмурацць бровы:
Неадступнасць іх гняце адна —
Покуль будуць жыць на свеце ўдовы,
Не закончыцца датуль вайна.

## СІНЕЛЬ

*Памяці Міколы Казачонка,*
*заслужанага эканаміста БССР*

Пара сумётаў, поскрыпу саней —
Я чуў —
Ласіным горлам трубіць,
А друг мой выкапаў з абсад сінель
І мне прынёс:
— Гадуй на любасць!

Азызлі дні,
Брыла з імжы зіма.
Я думаў часта ў моразі імжыстай:
Відаць, усё ж паэзія сама
Жыве ў душы эканаміста.

Снег выпаў,
Паўпланеты абвалок.
Буран шалеў,
узлескі гнуў і клычыў.

Ды дружбай пераселены кусток
Стаяў, ліловасць бэзу зычыў.

Ён стынь адолеў, зморазь перабыў,
Сустрэў цяплынь,
сінечы хваль сінейшы,
На жаль, таго,
хто прыгажосць любіў,
Вясновай квеценню не ўсцешыў.

Шугай, вясна!
Адчынены абшар
Табе ўжо жураўлінымі ключамі,
Мой друг са мной: глядзіць у твар
Сінель
яго сумленнымі вачамі.

## БАЛГАРЫЯ Ў СЭРЦЫ МАІМ

Вярнуся дадому,
І знікне
Вандровак дарожны пясок,
А Шыпка з падвоблачным пікам
Глядзець будзе ў вочы здалёк.

Пры ліўневай, цёплай залеве
Абудзіць пачуцці вясна
І — памяць.
І памяць у Плевен
Падасца з візіткай пасла.

Вятрамі надскальнымі Шумен,
Вякоў старажыл, прашуміць,

Трывожна пакратае думы —
Ваенных трывог не забыць.

Засвеціцца Стара Загора
Юначкаю ветлай здаля,
З адвагай заручаны горад,
Дзе стала прапісаны я.

А потым нахлыне стыхія
Надзей летуценных і сноў —
Сафія,
Са мною Сафія,
Душою жаданая, зноў.

Сяброў нагадаю,
Адданых
Сімфоніям вуліц, палям
І песням, якія гадамі
Дзялілі, як хлеб, напалам.

Насустрач ім з марай вясновай
Хутчэй палячу,
Каб пабыць
На роднай зямлі Дзімітрова,
Паклон яго краю адбіць.

Яшчэ мо не раз давядзецца
Хадзіць тут ля стромаў і рэк:
Паверце ж, Балгарыя ў сэрцы,
Любімая —
ў сэрцы навек!

## ДЗЕВЯТАЕ МАЯ
## Ў КАВАЧЭЎЦЫ

Нястрымнасць думак тчэцца
Па-весняму, маёва,
Прастуе ў Кавачэўцы,
У домік Дзімітрова.

Людскую плынь зацішак
Святочна сустракае...
Ён згэтуль
                юным выйшаў —
Змаганне ў свет гукала.

Лёс вызначыў бядоты,
Віхурных год замнога.
З віхур
          і ўстала потым
Над светам Перамога.

Нахлыннасць дум малюе
Абсяг жыцця ягоны,
А ўся зямля маюе
У харастве зялёным.

Людпее свята,
Сэрцы
Адзінствам дум яднае.
Паклон вам, Кавачэўцы,
У дзень дзевяты мая!

## НА ПАРТЫЗАНСКАЙ ПЛАНІНЕ

Дзіва творыцца ў лесам!
Лес на ўзвышках і схілах
Ранкам полымя бэзу,
Як пажар, ахапіла.

У пажары ліловым
І яліны, і вербы,
І зямля, і палова
Над Балгарыяй неба,

Змоўклі раптам зязюлі.
Салаўі анямелі.
Толькі ціўкаюць кулі
У людскім уяўленні.

Стрэлы... стрэлы...
Над шляхам
І міжстром'ем планіны
Рэха коціцца з жахам
І выццём страляніны.

Шпілі піхт пазразаны,
Дым прагалы ахутаў.
Выйшлі ў бой партызаны
Супраць нелюдзяў лютых.

Косяць тых, хто аблытаў
Волю дротам калючым,—
Прышлай зграі наймітаў,
Змоўцаў з плоймы гадзючай.

Кроў зямлю апаляе,
Гневам помслівым — сэрцы,

Край паўстанцкі палае,
Люд з нядоляю б'ецца.

...Часу грознага водгул
Ціш світанку прарэзаў.
І займае дарогу
Водсвет вогненны бэзу.

Гром ваенны адгрукаў
І аціх на планеце.
І працягваюць рукі
Людзі, хілячы квецень.

Там, дзе долы і высі
Чулі помснікаў стрэлы,
На стагоддзі ўзняліся
З іх імёнамі стэлы.

## НАГОДА

Вецер шыбамі грукае,
Дзьме сцюдзёна з-за шклін.
Мо не вецер, а кукеры *
З-за Дуная прыйшлі?

Ох жа, зухі!.. Гамонячы,
Зліплі ў гурт ля варот,
Славяць шумна апоўначы
Новы жартамі год.

---

* Пераапранутыя ў адзенне казачных істот удзельнікі навагодніх народных забаў у Балгарыі.

Са стракоццем адзежыны,
З бразгатнёй рамяні,
Замест шапак аснежаных —
Пявуноў грабяні...

Я такіх недзе ў Перніку
Прывячаў — іхні госць —
Аж да ранішніх пеўнікаў
Зухату, весялосць.

Звычка тут не ўчарашняя,—
Як кайло і як смык,
І да эры ўжо нашае
Пачала свой адлік.

Сіла ёсць патаемная
Ў тым — даказваць гатоў,—
Каб пражыць,
Быць нязменнаю
Столькі тысяч гадоў!

## СЁСТРЫ

Не моўкнуць цэхі з раніцы,
Падзея тут свая:
Ў другарак знатнай «Яніцы» *
Гасцюе Зульфія.

З узбекскай паэтэсаю
Сустрэцца — навіна

* Трыкатажнае прадпрыемства ў Балгарыі.

І місія пачэсная,
На ўсіх, на ўсіх — адна.

Устала госця з кніжыцай,
І голас — як ручай.
За думкай думка ніжацца
Пра дзіўны ўзбекскі край.

Гучыць напеўнасць горача —
Да ноткі разбярэш.
І льецца, радасць поўнячы,
У сэрцы кожны верш.

Хоць словы іншамоўныя,
А музыка, а сэнс
Другаркам-сёстрам родныя,
Сугучныя ім спрэс.

## ЯМБАЛ

Ні харэям і ні ямбам
Не праславіць поступ твой,
Сонцам высвечаны Ямбал
Над бруістаю Тунджой.

Трэба ў ім пабыць самому,
Паблукаць там-сям пяшком,
Падлавіць рабочы гоман,
Выбух жартаў — за чайком.

Трэба ямбалец * памацаць —
Скарб нябачанай красы,

* Выраб Ямбальскага сінтэтычнага камбіната.

Хор пачуць:

пяе юнацтва,

Промні ўткаўшы ў галасы.

Трэба шчэ абавязкова
Стаць з малымі ў карагод,
Стрэць дзядоў белагаловых,
Чыёй мудрасці — сто год.

І тады,
Калі ты сам быў
І з людзьмі тут падружыў,
Прыйдзе ў сны світальны Ямбал
З круч Балгарыі,
з Тунджы.

## ЗЛІТНАСЦЬ

Мы зноў на Віташы з табою.
Прымай нас, бераг Струмы!
Дудзяць вяршынь лясных габоі,
Звіняць струменна струны.

Праменны поўдзень. Залацінкі
Сабраў надгор'я грэбень.
Дзве спадарожных аблачынкі
Плывуць спакойна ў небе.

Плывуць вандроўніцы нямыя,
Зближаючыся ў высях.
Глядзім і славім еднасць мы іх:
Дзве ж у адну зліліся.

І мы ў бязмежнасці блакіту
Адны над кручай Струмы.
І ў нас благаславенна зліты
Імкненні, сэрцы, думы.

* * *

Нярэдка ўпрыхап,
На бягу
Спраў робіцца нямала.
А я так, людзі, не магу,
Я ўсё раблю трывала.

Хачу касіць,
З зарой касу
Шыкоўна накляпаю,
Каб пела ў травах — не расу
Збівала з траў, тупая.

Пайду араць,
Як па шнуру,
Ганю наўпрост барозны —
Хай там шумяць, дзе я ару,
Палеткі жытам росным!

Пачну каваць што,
Дадаю
Ў метал сугучнасць грому —
Не аднаму ж дабро кую,
А ўсім людзям, вядома!

## ЗАМЕЦЬ НА ПРАДВЕСНІ

Снег ідзе...
Апошні, мусіць, снег,
Звільгатнелы, падае камамі,
Латае праталіны наспех,
Каб зямлю зноў маразы скавалі.

Кажуць: адрыгнулася зіма,
Захацела ўтрымлівасць праверыць.
Толькі ў плённасць выбрыкаў сама,
Дужа састарэлая, не верыць.

Сілы ўпотай спеюць у вясны,
І пад снежным заляжалым пухам
Сніць зямля свайго ўзрушэння сны,
Як перад вяселлем маладуха.

Дзень яе вясельны загрыміць,
І яна, шматфарбная такая,
Гром разбудзіць,
будзе ліўні ліць,
Небам і зямлёю заўладае.

Снег ідзе...
Снег валіць — як здурэў,
Дураслівіцца зіма старая.
Ды пупышкі лопаюцца дрэў
З гулкім трэскам — цеплыня страляе.

## ПЕРШАРОДНАСЦЬ

Ніпто так сэрца не кранае,
Як звонам першая пчала
І краска з-пад снягоў лясная
Ў абдымках кволага цяпла.

За імі —
                першы спеў зязюлі,
І ранні гром у цішыні,
І траў зялёнае разгулле
Наўкол — куды ты ні зірні.

Ўсё ж першароднасці дарунак,
Мілей якога не знайсці,—
Нясмелы й прагны пацалунак
Той,
        што сустрэлася ў жыцці.

* * *

Пастой, вясна...
Ну, што ж ты нарабіла!
Свет паднавіўся, схлынула вада...
Як маладуха пад фатой — рабіна,
Як завіруха — квецень у садах.

А на зямлі...
Тут прагных траў разводдзе
Займае шыр усё жвавей, жвавей.
Хаўрусна сунуцца,
                              ў расхлынь выходзяць
Рамішыя, панікніца, падвей.

І не ўтрымаліся,
Вярнуўшыся на ранку
Адкульсці ў мілагучныя гаі,
Спеў пачалі дразды, і канаплянкі,
І песняры кахання — салаўі.

Такое творыцца!..
З паніззя і да ўзвышшаў
Гудзе, шуміць вясенні акіян.
Блакітны май, відочна, з рамак
выйшаў,—
Бушуй, бушуй, зычлівейшы буян!

* * *

Днём раскрылілі квецень яблыні,
Ружовую, бялюткую, з пылком.
У іх над кронамі, над штамбамі
Шчыруюць пчолы з дзіўным гаманком.

У небе цішыня напятая,
І над раллёй угрэтаю — дымы,
І недзе спяць, як Зеўсы барадатыя,
Заленаваўшыся зімой, грамы.

Усё надзелена вясны нязвычнасцю,
Ва ўсім гармонія, ў людзей — лады.
Напоена паўсвету урачыстасцю —
Цвітуць сады.

## БЫВАЛЬКІ

Сюды,
Як бялеюць каліны,
Лістотай шэпочуць гаі,
Заўжды на гармідар птушыны
Лятуць з-за Дняпра салаўі.

З патомнаю вернасцю звычцы,
Адданасцю цёплым начам
Яны на сваёй пераклічцы
Не хочуць ні хвілі маўчаць.

Ды ледзь галасы занямогуць,
А ў спевах наступіць разлад,
Лясным спевакам на падмогу
Дзяўчаты спяшаюцца з хат.

Падхопяць, сабраўшыся разам,
Матыў, дарагі маладым,
І неба святлее адразу,
І сходзіць з ніў досвіткаў дым.

Усе салаўі замаўкаюць,
Даводзіцца ім пацярпець —
Бывалькі вясну сустракаюць
Пад родны дзявочы напеў.

* * *

У белым полымі
Зямля, сады...
Якое свята зараз!

Вось-вось з галін
На дрэўцах маладых
Пакажа вочкі завязь.

Хай у правы
Ўступае, як здавён,
Саюз зямлі і сонца,
Напоіць сілай
Рукі ўзнятых крон,
Галінкам дасць — па гронцы!

Бывае ж так:
У садзе рай цвіце,
Грыміць красою цвету,
Затым краса
Бязвольна ападзе,
І завязі — ні следу.

Праскочыць лета.
У сады апад
Людзей пакліча выйсці.
Ніхто ж не прыйдзе
Ў той — без яблык — сад,
Абвіслы жаўталісцем.

Красой здзіўляў ён
Ледзь не цэлы свет.
І — марна: верыць цяжка,
Каб хтосьці
Памяняў на пустацвет
Пладоў крамяных важкасць.

* * *

Адцвітае чаромхавы май,
Падпаліла лугі чырваніца.
Ты хадзі за раку, пагукай
Лета ў госці з зарой-заранідай.

Па іскрыстай, нязолкай расе,
Мурагах, нетаптаных нагамі,
Яно прыйдзе ў нязнанай красе
Майго роднага краю шляхамі.

Сны вясенняй зямлі скалыхне
І нягрозна, ў хадзе пасмялеўшы,
Дзіватворнасці ліўнем дыхне,
Навальніцаю чэрвеньскай першай.

Потым сцішыць усе галасы,
Згоніць хмар раскудлачаных навісь.
З ніў пацягне ў блакіт каласы,
А ў садах скучыць кволую завязь.

У званкі сваіх кветак званіць
Будзе ўсюды — на ўзлессях, на пашы,
І рассыпле рубіны суніц,
І пачне ўранку косы мянташыць.

Красавання рассеяўшы дым,
Жыта ўроніць свае завушнічкі.
І вяснушкі на твары тваім
Згаснуць раптам, як зыркія знічкі.

Чэрвень маю шапне: уступай
Мне дарогі свае, ягамосці!..
Не марудзь жа, хадзі пагукай
З даляў лета вясёлае ў госці...

## НЕ ВЯРТАЕЦЦА ЧАС

Залатое залецце!
Залатыя лясы!
Туманы на дасвецці...
У смузе верасы...

Жніўня водгрывы тлеюць,
Дажываючы дні,
Грыўкі рыжыя грэюць
Травы ў іхнім агні.

Хутка клін журавовы
Небасхіл рассячэ,
Халадок вераснёвы
Па зямлі пацячэ.

Зоры ўжо наліліся
Золлю крохкай, як лёд.
З дрэў зрываецца лісце
Ў самавольны адлёт.

Гэты подых сцюдзёны —
Каб прыродзе заснуць,
Потым хлыне паўдзённы
І пакліча вясну.

Прыйдзе цепледзь здалёку,
І паўторам жывым
Лес абліснуцца.
Зноўку,
Прыляцяць журавы.

Нехта ж іх не спаткае,
Знікне ў часе ад нас...
Час паўтораў не мае,
Не вяртаецца час.

## ЯК ПОЛЮСЫ ПЛАНЕТ...

Над сушай, азёрнымі водамі
Стлеў змораны вечар ужо.
Ты ў садзе, у зацішку водарным,
Чакала, а ён не ішоў.

Ты доўга чакала, не плакала,
Хоць вельмі балюча пякла
Пачуцці яго абыякавасць,
Халодная, быццам імгла.

Прыкідвала, стоячы ў роздуме,—
Ён здраднік або прайдзісвет?..
Вы ж проста
Характарам розныя,
Як полюсы ў кожнай з планет.

## ДАЙ РУКУ

Ліпы па-над ганачкам
Нешта сняць.
Выйдзі, выйдзі, Ганначка,
Пастаяць.

Вечарам праводзіны
У вясны,
Хлопцы павыходзілі,—
Не адны.

Хтосьці струны кратае
Ў час такі.
Кружацца з дзяўчатамі
Юнакі.

Ноч прыціхла дзіўная
Навакол,
Дадушы, адзіная
Ў сто вякоў.

Ветах з прыцьмы выбраўся
З-за дакук,
Тонкі-тонкі, выгнуўся,
Быццам лук.

Ён, любві даверлівы
Маладых,
Стрэлы ўсе нацэльвае
Ў сэрцы іх.

Высі зорна вышыты,
Бы ў жарку...
Ой, нарэшце, выйшла ты —
Дай руку!

* * *

Дзе ты была, харошая,
Не завітала тады,
Як залатой парошаю
Май асыпаў сады?

Зорна зямля іскрылася.
Ў блакітныя сны плыла.
Можа, ты ў снах згубілася,
Выбрацца не змагла?

Светлая, чарадзейная,
З нагоды, скажы, якой

Сэрца маё абнадзеіла,
Кажуць,— звяла з бядой...

Колькі жыву, не ведаю,
Дзе тую збыць бяду.
Век за табой па следу я —
Марай сваёй — брыду.

## КОЛЕР ТВАІХ ВАЧЭЙ

Будзьце, вочы, як пралескі!..
З дзявочай песні

Вачам ты пазычыла колер,
Няйначай, у цёплых нябёс.
Таму ён заўжды васільковы,
Іскрысты, як зорак усплёск.

А можа, на родных прылесках,
Дзе трубяць вясной журавы,
Знайшла яго ў росных пралесках —
Драбніцах жывой сінявы?

Праменна ў іх сонейка грала,
І ты перад скарбам зямлі
Душы загавор паўтарала,
Каб яснымі вочы былі.

Цяпер, хто цябе ні страчае,
Любуецца, тоячы ўздых,
Тваімі — як неба — вачамі
У засмужы красак зямных.

## ВЕРЛІБРАВЫ СЮЖЭТ

Ты падсініла павекі,
Цені пазычыўшы ў модніц,
І рада,
І думаеш, верачы сіньцы,
Быццам бы папрыгажэла,
Стала такой,
Як Дыяна,
Што між мадон-багародзіц
Глядзіць з абразоў на покуце,
Затуленых ручнікамі.

Табе ўжо не церпіцца глянуць
У люстра, на шкле якога
Раніцай сонца бывае,
Месяц садзіцца начамі,
І цёткі сталага веку,
Прыйшоўшы з палеткаў пад вечар,
Хваляцца твараў загарам,
Пакінутым спёкай,
вятрамі
і працай—да сёмага поту.

Насмешкі жанок я помню:
Пра тых,
Хто нагвэгвае сіньку на вочы,
Кажуць яны,
Што дзяўчаты красой пабяднелі,
Сталі, нібы ледзяныя.

Я не хачу,
Каб цябе называлі
Носьбіткай іх прыгажосці.
Нікому красой
Пяршынства ты не ўступіш,

Нат старажытнай Дыяне,
Юнай багіні месяца,
Пасаджанай пад ручнікамі
У матчынай хаце,
Прапахлай
песнямі,
хлебам,
жывіцай
І патрыярхальнасцю быта.

Я думаю так
І баюся
Зірнуць табе ў твар,
У вочы,
На сіньку крыклівых павекаў,
Бо мне
Перад сінню нябёсаў —
сорамна,
Перад крынічнаю чысцінёю —
сорамна.
І перад жужаю цёплых вуголляў —
сорамна.

Сіняву ты пазычыла ў модніц,
Штучнасцю абзавялася,
Ад штучнасці ж вее заўсёды
холадам,
смуткам
і адчужэннем.

Каб гэтага не адбылося,
Хачу прыгарнуць цябе шчыра,
Сагрэць, як раней у нягодах,
Жарам кахання,
цёплым блакітам,
промнямі сонца.

* * *

Маланка ўсе арэхі папаліла,
Як жыгала, шукаючы ахвяр.
Навошта ж ты са мной ісці павінна
Шукаць іх у нязведаны гушчар?

Я так сказаў ёй, а яна імгненна
Зірнула на мяне і апякла
Жарчэй маланкі твару задуменнасць,
Працяла грудзі, як з агню страла.

Не трэба быць дасужым дыпламатам,
Каб не адчуць у позірку нязлым
Нямы дакор, дэмарш ці ультыматум,
Прадыктаваны нечым дарагім.

Ну, сапраўды, чаму абавязкова
Абшнырваць дзеля скарбаў лес глухі?
Ці не прасцей ісці-брысці дубровай,
Забыўшы ўсе нягоды і грахі?

У забыццё ісці... Але на свеце
Вандровак не бывае без прычын.
...Мы можам марыць, разважаць,
як дзеці,
Альбо спрачацца, ў згодзе ідучы.

Але адчуем — побач анікога,
У безлюддзі зялёнай мы адны,
І хлыне ў кроў салодкая знямога,
Прыцішак благаслаўляючы лясны.

Хіснецца ў просіні тугая далеч,
Асінак затрапечацца лісцё.
Мы ўзрушанасць забытую згадаем,
Даверыўшы надзеям пачуццё...

Маланка ўсе арэхі папаліла,
Але нам нечага па тым тужыць.
Ніхто яшчэ не заручыўся сілай,
Каб вёзьмы нашай вернасці спаліць.

* * *

Раскруці свае русыя косы
І на грудзі адкінь туманком!..
Над ракою ў тумане бялёсым
Прыглянулася ты мне такой.
З хваль на бераг выходзіла вогкі,
І ў здзіўленні ад юнай красы
Супыніліся ў небе аблокі,
Прытаіла зямля галасы.
А без прытайкі, ўстаўшы прывеціць,
Табе люба паглядвалі ўслед
Кветкі, травы, на дыбачках дзеці —
Ўвесь красой заварожаны свет.

## БЯСКОНЦЫ ПРАЦЯГ

Прыйдзе верасень ціхі,
Як падкрадлівы сон.
Золка роснасцю ўспыхне,
Густа — вохрай лясоў.

Несучы павуціну,
Сівізной ахіне
На іржэўі шчаціну
І чупрыну ў мяне.

Будзе ранак ці вечар,
Росшум ветру ці дрэў,
І я раптам прыкмечу —
Зноў за год пастарэў.

Стане трошкі тужліва,
А туга — не ныццё:
Вечна жыць немажліва —
Не паўторыш жыццё.

Сад прыгнецца тым часам
Да акна, на паркан.
Вераснёўскай акраскай
Гляне ў вочы шафран.

Мо вісець яму тыдзень,
Упадзе, а вясной
Дрэўца юнае выйдзе
Жыць надзеяй зямной.

Падрасце і гарэзна
Скіне краскавы дым,
Паспрачаецца, незваль,
З буравеем ліхім.

Так заўжды,
Так адвечна
У мільярдаў істот
Шлях свой цягнецца Млечны,
Прадаўжаецца род.

Не адчайвайся, сэрца,—
У цябе і ў жыцця,
Што аднойчы даецца,
Ёсць бясконцы працяг.

# ЛЕДЗЯНАЯ КУПЕЛЯ

Паэма

Людзі над заваддзю сіняй
жылі ды нашчадкаў расцілі.
Расла і дзяўчынка Расіна.

Расіна...
Прыдумана некім такое
імя — крышталёвая кропля,
што павісае
на травах, абнятых світальным спакоем,
на кронах лясоў векавых,
дзе асілкі-дубы
верхавінамі сонца гайдаюць,
на вейках дзяўчат,
калі тыя смяюцца ад шчасця
або ад маркоты льюць слёзы.

Не!
Вычытаў нехта імя ў фаліянтах,
чые захавалі старонкі
дыханне стагоддзяў,
гісторыі поступ нястрымны,
асветлены мудрасцю думкі,
законы быцця,
і статуты змагання, і догмы,
і хітраспляценні гіпотэз,
і вершы з завостранай рыфмай,
а часам без рыфмы,
чым вызначаецца ў пэўнай ступені
і гэта паэма.

А можа, было ўсё іначай?
Мо выпадковасць абставін
Расінай дзяўчо ахрысціла?

Прыкінем, што крыллем зіма
на адлёт лапатала,
паверыўшы сонцу,
даймала мароз капяжамі:
вызваньвалі клавішы капак
вясенняму сонцу акорды
Глінкі,
Бетховена,
Баха,
Расіні,
рытмы вядомых паэтаў
і невядомага бардам музыкі,
прыхільніка дробнай чачоткі.
З вызвану весніх акордаў,
кропель, узятых у сонца,
і склалася — верыць не верыць? —
дзяўчынкі імя расяное.

Кажуць яшчэ,
бы надоечы ў жніўні,
ў яго зарапад вечаровы
зорка адна захацела
ўніз зазірнуць сінявока.
Яна ад сясцёр спадарожных
адскочыла ноччу
і, не ўтрымаўшыся ў высях,
крута з нябёс на зямлю паляцела,
ды не разбілася,
ды не пагасла —
кропляй у травах бліснула
і кропляю ў сэрца Расінінай маці
запала глыбей, чым імёны
Марфы,
Грышіны,
Матруны,
Анфісы.

Можна ўсім прыдумкам верыць,
гартаць фаліянты,
раскручваць тугія здагадкі,
але не дабрацца да грунту высновы,
якая б надзейна стаяла,
як на падмурках каменныя гмахі,
як помнікі на п'едэсталах,
як вера нязрушная ў святасць
светлых людскіх ідэалаў.

Ну, досыць чым-нечым галовы марочыць!
На пошукі ісціны лепей пакрочым
у гарадок беларускі, рабочы...

Стаяў гарадок невялікі
гушчэчай лясной ахінуты,
бокам адным да чыгункі падаўся,
другім —
да рачулкі Нязнанкі,
на стромкіх пагорках рассыпаў
будовы ў зялёных абсадах.
Са стром углядаліся ў чыстыя воды
домікі
разам
з вышынь васільковасцю ветлай,
сонцам высокім,
парканамі,
дубам, абвешаным мноствам шпакоўняў,
млынком камунгаса,
у Тырбы, прыватніка, ўладай забраным.

Флюгер над вільчыкам млына
штырком громаадвода
подых вынюхваў дажджоў,
навальніц,
градабояў

і цішыні самабытнасць
пасля шалапуцця разгульнага
вестаў
ці нордаў,
остаў ці
зюйдаў.
Млынок ўзвышаўся над дамбай,
абкладзенай знізу
падушкай каменнай,
парослай учэпнай травою гарыцай
і лазняком самасейным,
глуха гугнявіў,
ваду забіраючы пашчаю шлюза,
варочаў цяжэзныя жорны
і сыпаў муку
каму ў куль,
каму ў торбу,
сабе ж пакідаў за памол
ад куля —
два паўнюткія гарцы,
ад торбы —
два фунты нікчэмных.

З нагрузкай спраўляліся жорны
заўсёды,
але ўсё часцей
пачыналі раскрут з перапынкам:
вайна,
недарод,
галадуха
ля млына прыпын для падвод
пуставаць вымушалі.
Нярэдка на мліва па тыдню
ніхто збажыну не прывозіў,
і млын вадзяны на Нязнанцы
маўчаў, заставаўся зусім беспрацоўным.

З дамбы віднеўся
над рэчкаю домік па новым падрубе,
несамавіты,
абнесены нізкім штыкетам,
дахам падобным да панцыра чарапахі.
На строме ўзбярэжнай
бачыўся ён, далібог, чарапахай
і птушкам,
і хмаркам,
і сонцу.

Домік на строме...
Хто ведаў не ведаў,
якога нязнанага шчасця
чакала штодзень тут Фядосік Анэта,
краса-маладзіца,
хвалёная мужам Стазарам
і тымі,
хто з ёю на фабрыцы змалку
стаяў ля машын неўгамонных,
што прагна глыталі асіну
і сыпалі шчодра ў аддачу
сечку —
саломку запалак.

Таемнае шчасце,
замужжа надзею
жанчына пад сэрцам насіла,
пасаг на радзіны
яму набывала
па беднасці — сціплы,
па выбару — лепшы,
па густу — харошы.

Турботаю той жа
жыў, рупіўся бацька:

з чыгункі вярнуўшыся,
зашмальцаваную куртку
памочніка машыніста
здымаў на парозе
і ў ролю ўступаў
памагатага жонкі.

Душы нецярплівасць
Стазар не паказваў,
а непаседлівай жонцы
казаў летуценна:

— Дня таго б дачакацца!..
Ды не ўпусціць бы часіны,
быць дома з табою!..

Руку яго брала Анэта
і, да сябе прысланіўшы,
радзіла раду:

— Чуеш — варушыцца?..
Ведай, нядоўга чакаць засталося.
Будзе ў нас сын ці дачушка...

Анэту,
абняўшы аберуч,
хіліў да сябе ён,
мажны, як мядзведзь-тагалетак.
Пакуль яны побач сядзелі,
ў іх одум сямейны
прасілася шчасце
і патайком падкрадаўся
голас трывогі.
Трывога няўслых гаварыла:
«Благой вы часінай
падбалі аб шчасці,

жаданае шчасце
цяпер адзінокім не ходзіць,
упрычапкі швэндае з горам...»

Трывожная думка, успыхнуўшы, тлела
і гасла, бы ў прысаку цёплым, нясмела,
хаця й разгарэцца падставы ўсе мела.

Сурова грымеў
дзевятнаццаты
год навальнічны.
Ашчэрыўшы кычча,
варожыя орды
Маскве пагражалі пятлёю.
Франты супрацьлегла стаялі,
шаблі свае скрыжаваўшы,
і на прасторах лясной Беларусі,
размежаваўшыся
плыннай ракою Бярозай.

Аднойчы да грому пазіцый вайсковых,
ледзь чутнага досвіткам раннім,
гром навальніцы
ўгары далучыўся,
змёў цішыню,
ў сны людзей уварваўся,
хмурын,
ускудлачаных ветрам,
пагнаў табуны над зямлёю
бліскучаю пугай-маланкай.
Маланка адчайная секла наводмаш
кудлатае неба,
на хмарах навіслых
крывулькамі —
почыркам страху —
распісвала шлях навальніцы.

Выблiскi...
Выбухi...
Хiба спрасонку
магла здагадацца Анэта —
б'юць перуны
цi гарматы цяжкiя?
Похапкам скiнула коўдру,
злезла з пасцелi
i — да акна...

Далей анiчога
кабета не помнiць,
не бачыла,
як мiтусiўся Стазар апантана,
як збеглiся ў домiк суседкi,
як акушэрку старую
з колiшняй земскай бальнiцы
паклiкалi на дапамогу.

Дождж перастаў,
адгула навальнiца,
i сонца,
хмурыну вясёлай дугой абагнуўшы,
ўладарства сваё над зямлёй аднаўляла.
Тады
i ачулася крыху Анэта,
расплюшчыла вочы,
пакой азiрнула
i да акна мiтуслiва
пагляд перанесла.
Смяялася неба,
на шкельцах у рамах
зялёнага лiўня паблiсквалi рэшткi,
кiдаючы промнi
на столь i падлогу,
на сцены i ложак.

— З днём нараджэння дачкі! —
акушэрка сказала,
цалуючы ў лоб парадзіху.

— Дачушка?.. Мая ты дзяўчынка!
Сэрца майго крывінка...
Слёзка... Вачэй расінка!..

І голас Анэты,
як вал,
захліснулі
і ўдзячнасць,
і радасць,
і шчасце,
якое даецца жанчыне,
калі яна роду людскому
дорыць маленькага чалавека.

З дня, як дачку нарадзіла Анэта,
многа было калыханак прапета,
ўбіралася ў кветкі яшчэ адно лета.

Расіна на ногі ўжо стала,
а ногі прасіліся на падлогу,
збіраліся без апекі,
самохаць
прамерыць пакой
ад калыскі
да мамы.
Смяшліва дзяўчынка ступала,
біла,
як кажуць,
паклоны памосту,
зноўку ісці намагалася,
зноўку імкнулася ўперад
позіркам і рукамі.

Давайце ж уявім,
што гэтак
за частаколам стагоддзяў
нашы калматыя продкі
хадзіць прывыкалі,
у кулю зямную
упёршыся цвёрда нагамі,
нясмела ўзіраліся ў далеч свайго існавання.
Так самастойна,
навобмацак
выйсце шукалі
са змрочнае першабытнасці
на шлях свой,
акрэслены часам,—
да сонца,
да ўсведамлення сябе,
да росквіту сіл чалавечых.

З крокаў,
з няўхільнага руху
ў людзей пачынаецца свету пазнанне,
і навакольнасці блізкай,
і недасяжных адлеглaсных тайнаў,
і розум становіцца мудрым,
і мускулаў сіла дужэе.

Дужэла й Расіна,
маці на ўцеху,
бацьку на ўцеху
тупала бесперастанна
найкарацейшым маршрутам —
ад ложка-качалкі
і
да парога.

А што — за парогам?..

Цікаўнасці крылы
малую аднойчы
з масніц узнялі
і за парог перанеслі на ганак,
адтуль — на прыступкі,
на дворык
да вузкай адчыненай брамы.

За брамай спеў поўдзень,
па вуліцы пыльнай
гнаў статак рагаты,
спёкаю закатаваны,
заедзены аваднямі.

Рагулі прайшлі,
на пачопках разнеслі
бразготкі-званкі
па заціхлых дварах.
Пыл не аблёг яшчэ,
вуліца пахла
каровамі,
сырадоем,
водарам ліп
і цішынёю,
падсмажанай ліпеньскай спёкай.

Здаля ў цішыню,
ў бессаромлівую спёку,
ў водар ліпнёвы
крокаў урэзаўся пошчак:
гулка праходзіла войска,
прагнучы бітвы астатняй
з чужынцам,
чый фронт не ўстаяў на Бярозе,
рассечаны наступу клінням,
кінуўся ў роспачы бегчы.
Роспач пыхлівае панства

грозна каціла
на захад,
на Буг,
на разлогі Забужжа.

Леніна войска —
так людзі байцоў называлі,—
да марша свайго прыкаваўшы
позіркі,
сэрцы,
спадзевы людскія,
ладна ішло,
загарэлае,
пылам дарожным абданае,
з выцвілай соллю на гімнасцёрках,
з мужнасцю ратнаю ў сэрцах,
з воляю да канчатковай
над ворагам перамогі.

Ліха трывожнае некуды збегла,
але расслабляцца байцам было нельга,
рук іх чакалі плугі, і сякеры, і цэгла.

Ранняя восень
барвовыя позвы
зіме рассылаць рыхтавала,
лісты развітальныя
з царства ляснога
прасіла разнесці
на крылах вятроў крутагрывых,
на спінах буслоў пры адлёце,
на нітках густой павуціны,
на хвалях струменных крыніц і рачулак.

Сабраўшыся згодліва разам,
складалі свой ліст адмысловы

і тыя,
        хто з фронта вярнуўся,
і тыя,
        хто дома чакаў іх вяртання.

Перад супольнасцю ўсёю
пісцы-грамацеі
словы, нібы не выводзілі,
а высякалі
з адвечных жаданняў,
гарачых імкненняў,
разумных разваг чалавечых.
Стараліся дужа,
бо людзі прасілі
чаканіць ім думы,
як патрабуе вучонасць,
найбольш закавыраста й мудра,
не ведалі, пэўна,
што прастата—найвялікшая мудрасць,
а закавыристасць — мудрасці вораг.

Вініць анікога ж у тым немагчыма:
ліст важны складаўся
па важнай нагодзе,
і не абы там каму —
старшыні Саўнаркома,
таварышу Леніну асабіста
душы запаветнасць
разважна выкладвалі людзі,
пісцам дыктавалі:
— Мы,
чые прозвішчы дадзены ўнізе,
пішам табе, правадыр,
з гарадка на Нязнанцы,
рачулкі маленькай,
але па магутнасці плыняў

прыдатнай для мэты вялікай...
Прачулі ў нас вестку
рабочыя і аратаі,
што наступ на цемру
пачаць ты задумаў,
заліць электрычнасцю хочаш краіну —
ад самай чырвонай сталіцы
да воддаляў змрочных,
да медзвядзінае глухамані.
Ільіч паважаны,
ў вялікасных дзеях
на нас пакладзіся,
на моц нашых рук
і ўлічы, калі ласка,
ў задумах прыдатнасць Нязнанкі,
якая варочае жорны на млыне,
а выкрасаць можа
і ток электрычны...

І заадно з тым
супольнасць прасіла
прыслаць на Нязнанку
такую машыну,
якая б з вірлівай быстрэчы
энергію брала,
запальвала нанач,
замест лучака і газніцы,
святлістыя лямпы
пад столямі хат,
на чыгунцы
і ў цэхах фабрычных,
дзе робяць саломку запалак.

Даставіла пошта
за тыдзень — не болей —
прашэнне пісьмовае

па прызначэнню —
ў Маскву,
ў кабінет старшыні Саўнаркома.
Уладзімір Ільіч,
разбіраючы справы,
са стосу папер неадкладных
ліст адасобіў
і, просьбу людзей прачытаўшы,
устаў з-за стала,
кабінетам прайшоўся,
нацэліўшы позірк на карту.
З квадратнае карты
Расіі бяскрайнасць —
ад сопак крутых Прыамур'я
да пагранічных бароў Наднямоння —
у твар паглядала
вачамі патухлымі
вёсак жабрацкіх,
бяздымных заводаў,
разбітых чыгуначных станцый
і гарадоў у халодным сутонні.

На карце маштабнай
Нязнанку Ільіч адшукаў
і ясна алоўкам
адзіны на ёй гарадок валаснога значэння
маленькім кружком абазначыў.

Праз тры з палавінай гадзіны
у тым жа сваім кабінеце
прыняў старшыня Саўнаркома
замежнага госця,
пісьменніка, сэра Уэлса.
Цікавіўся сэр паважаны,
што будзе з Расіяй,
пытаўся,

ці зможа Расія
вырвацца з лапаў страшэнных
бясхлебіцы,
холаду,
цемры.

Ільіч усміхнуўся
сваёй суцяшальнай усмешкай,
каб цень безнадзейнасці ў госця развеяць,
і вельмі сур'ёзна,
і ўдумліва вельмі,
у словы ўліваючы ўсю перакананасць сэрца,
пачаў гаварыць,
якой яму бачыцца заўтра
Краіна Саветаў.

Не як паэт гаварыў ён —
як мудры вучоны,
але ў яго простых высновах
паэзіі бляскат свяціўся,
бытта наяве, ўставалі
плаціны — на рэках,
заводы — на пустках,
дамы — на руінах,
сады — ў неабжытых пустэльнях
і шчасце — ў вачах
раскаваных ілотаў расійскіх.

Герберт Уэлс
не прадбачыў такога,
і, здзіўлены чутым,
у крэсле прыўстаў,
на Ільіча паглядзеў дзіўнавата
і нерашуча яму запярэчыў:
— Не хочацца верыць...
Расія агорнута змрокам.

А вы?..
Вы ёй зычыце росквіт:
станцыі,
цеплацэнтралі,
гмахі заводаў...
Даруйце,
скажу вам сумленна,
гэта — фантастыка,
гэта — Крамля летуценні...

— Фантастыка,—
Ленін тактоўна паправіў Уэлса,—
яна — не маё амплуа,
яна — белетрыстыкі сфера...
А мы — камуністы,
і ў нас летуценні
звязаны з існасцю кроўна,
як з пупавінай матулі
дзіцяці,
якое яна нарадзіла.

Ліст, прачытаны нядаўна,
зноў Уладзімір Ільіч
узяў са стала
і, трымаючы перад сабою,
працягваў гаворку:

— Я вас разумею...
Нам сёння не верацъ,
пытаюць, скуль сілу мы возьмем
для сакалінага ўзлёту.
А сіла — ў народзе.
Вось доказ таму:
людзі сціплыя пішуць,
што жыць пры лучыне не хочуць,
мараць электрыкі дзіва

у сябе пасяліць,
каб лёс векавы перайначыць.
То ж сёння...
А заўтра?..
Гадкоў так праз дзесяць
да нас завітайце,
ручаюся,
не пашкадуеце,
з прыемнасцю пазайздросціце
яве,
народжанай з нашага летуцення...

Твар Леніна ўсмешкаю зноў асвятліўся,
шчыраю і абаяльнай,
з якой дружалюбнасць сябруе.

Ля берагоў заільдзела Нязнанка,
неба над ёй азарылася ранкам,
ішлі ў гарадок тады госці з паўстанка.

Гасцям гасцяваць бы
за шумным застоллем,
развязваць бяседу,
у келіхах поўных
хвалу гаспадыні ўздымаць над абрусам
за цёплую стрэчу,
за шчодрае сэрца,
за ўвішныя рукі.
Але не цікавілі іх пагасціны,
яны на млынок заглянулі,
даўно апусцелы,
прайшліся ўздоўж дамбы,
аброслай гарыцай і лазняком-самасеем,
пасля на пагорку стаялі
і, ўскінуўшы рукі,
нібыта прынаджвалі светлую далеч,

дзе сходзіцца неба з зямлёю
і рэчка з падножжа пагоркаў
бярэ валасок танкаструнны,
сукае,
зматвае ў кіпенях,
доўжыць
і цягне ніжэй,
да млыновай плаціны.

Такі ўжо закон у вады:
застаіцца — змарнее,
а пабяжыць —
развяселіцца,
ўзбліскі падорыць
ваколлю,
нябёсам
і людзям.

Мо госці б гасцілі,
калі б не прыспешваў
іх клопат дзяржаўны:
па Леніна просьбе
даручана ўрадам
праверыць грунтоўна,
ці зможа Нязнанка,
сабраўшы ўсе воды,
і жорны млыновыя рухаць,
і ў час паслядзённы
прыходзіць
на змену знямогламу сонцу,
выкрэсваць дынамаю ток электрычны,
зыркотна высвечваць
працу рабочых начную,
побыт сямейны,
заняткі ў лікпунктах,
забавы дзяцей і старых адпачынак.

Заканчваўся дзень, травы крыліся ў шэрань,
і ўсім паказалася ў прымуцці шэрай —
агні зіхацяць, асвятляючы бераг.

Млын да вясны
ў бабылях апынуўся,
аціх,
абязлюдзеў,
флюгер скіроўваў па ветру,
з розных кірункаў выглядваў падводы,
хаця б з ячмянём або грэчкай,
якія калісьці ішлі ў крупадзёрку,
а зараз спаўна —
на муку,
на бліны,
на зацірку,
на праснакі

тым,
каму хочацца хлеба.

Зямля,
як і людзі,
чакала зярнят,
прагла з адталасцю глебы
прыняць іх на цёплае ўлонне,
палеткі аздобіць
купчастаю рунню,
ружоваю, быццам бы ручкі дзіцяці,
а ўлетку калоссем налітым
загушкаць пад ветрам
мару людскую аб хлебе.

Вясну жаўрукі абвясцілі...

Цяплынь падымалася ўгору паволі,
а млын на Нязнанцы

заварушыўся,
устрапянуўся,
быццам бы жораў спрасонку:
вакол завіхаліся людзі —
хто ў армяку саматканым,
хто ў пралетарскай спяцоўцы,
хто ў палінялай скуранцы,
хто ў шынялі ды абмотках,—
і ўсе ў непарушным суладдзі
і ўсе з неадольным жаданнем —
над берагамі рачулкі
хутчэй запаліць
рукатворнае сонца.

Млын маладзеў, абнаўляўся,
штодзень да сябе,
бы магнітам,
прыцягваў
шмат жыхароў з наваколля.
Аднойчы ў натоўпе
юнак у матроскім бушлаце,
нядаўні балтыец Красан Жаваронак,
які меў з электрыкай справу на судне
і пагадзіўся рабіць на мясцовай,
названай ім горда —
Нязнанская ГЭС,
заўважыў віхлястага Гошу,
сына былога млынаўладальніка Тырбы.

Хацеў Жаваронак
з ім перакінуцца словам,
дазнацца,
адкуль і якім яго ветрам
на бераг пакінуты бацькам занесла.
Ды дзе там!
Гош некуды знік непрыкметна,

быццам бы вецер вясны абуджальнай
змёў адчужэнца з млыновае дамбы.

Вясна павіталася з летам,
і стала на месца дынама,
прысланае Леніным са сталіцы
у гарадок беларускі.
Пабеглі ўздоўж вуліц гарыстых
слупы з узбярэжжа,
драты-правады залатыя
панеслі ў руках перагнутых,
падобных да ракавых клюшняў,
пад стрэхі,
                    замшэлыя дахі —

туды,
дзе газніцамі вочы
сляпіла здавён беспрасветнасць
усім пакаленням,
а змене іх новай у марах
свяціліся ўжо
электрычныя зоры,
падараваныя ўладай Саветаў.

Мары ўвасобіла ява!

Рака аддавала дынама
сілу, сабраную плынню,
і, правады напаўняючы токам,
пагнала над вулічным брукам
у домікі,
                хаты,
                        на фабрыку
                                    і на чыгунку.

Ток электрычны прыйшоў ад Нязпанкі
і ў домік на новым падрубе,

дзе нарадзілася,
стала на ногі
свет пазнавала малая Расіна.

Тут круглая лямпа,
змяніўшы газніцу,
знайшла сабе месца пад столлю
і ў цемрадзь начную
святло выкідала,
як выкідае вулкан
на чорны базальт з жарала
расплаўленай магмы струмені.
Увечары,
з гуляў прыбегшы дадому,
Расіна на столь паглядала,
дзівілася дзівам
і засынала шчаслівай
пад водсветам
                        блізкага
                                    сонца.

У жніўні цяжкая праява
нязнанцаў ускалыхнула:
грымотнай рабінавай ноччу,
калі перуны свае стрэлы шпурляюць,
над хатай,
        якую займаў Жаваронак,
        у бежанстве страціўшы родных,
певень чырвоны загойсаў,
і, як ні стараліся людзі,
яго ўтаймаваць не ўдалося.
Хаціна згарэла.
Віну за здарэнне
той-сёй узваліў на маланку,
з большасць —
на ўчынак падпальшчыкаў хітрых.

Міжволі Красан тады ўспомніў
і млынаўладальніка Тырбу,
і сына ягонага Гошку,
што ў гарадку паказаўся,
як ставілі ў млыне дынама.
Відаць, не цікаўнасць — злаўмыснасць
Тырбы нашчадка вяла на Нязнанку.

Не мог Жаваронак застацца на восень
без даху: па згодзе сямейнай Фядосік
пазваў яго ў домік — жыць месца знайшлося.

Так у Расіны з'явіўся
сябар надзейны,
бывалы матрос,
гаваркі і вясёлы.
Зведаў ён многа
прыгодаў на моры,
з такой непадкупнасцю
прытчы расказваў,
што верыла ім малалетка,
бы яве цудоўнай.
Часцей жа за ўсё
і малой і дарослым
Красан гаварыў
пра вайну,
рэвалюцыю,
Піцер,
пра тых,
хто за Леніным крочыў —
буры насустрач,
хто рынуўся штурмам на Зімні —
волі насустрач,
хто ў бітвы за ўладу Саветаў
ірваўся —
шчасцю насустрач.

Зямля ўжо нутром прадчувала
дыханне нядальніх зазімкаў,
завей карагоды,
сумётаў гарбы на дарогах,
слязлівасць адліг
і марозаў бессардэчнасць.
Хутка яе прадчуванні
збыліся ў штодзённасці бачнай —
        слаліся снегам,
        сіверам дзьмулі,
        насоўвалі лужам на вочы
                        ільдоў акуляры.

Стала й Нязнанка,
пад панцырам коўзкім
хваляў разбег прыпыніла,
і ўсё ж ледаставу
плынь у палон не здалася,
біла мяцежнаю сілай
у прымусовыя ковы,
прагнучы гону і волі,
з-пад сыпкага снегу сінела
                зрэнкамі цёплых прамоін.

Ніхто не ўяўляў,
не здагадваўся сэрцам,
як здрадліва зрэнкі пагляд свой касілі
на тых,
        хто выходзіў на рэчку,
        хто лёд самаробнымі рэзаў канькамі,
        хто з берага ў санках каціўся,
                ловячы ўцехі зазімак
                і забываючы пра небяспеку.

Расіна расла не звяглівай,
не ўмела капрызамі

ласку ў бацькоў заваёўваць,
вымальваць слязамі
спагады старэйшых,
        радасці цацак,
        цікаўнасці кніжак —
іх так было мала,
іх так мець хацелася болей
                і гарадам,
                і вёскам,
                і ўсёй мнагамоўнай краіне.

Адну толькі рэч,
        як неабходнасць,
чакала дзяўчынка:
даў бацька дачцы абяцанне
санкі прывезці фабрычнай работы
на палазах металічных,
трывалых,
бліскучых,
        быццам два сонейка промні,—
такім пазайздросцяць
        усе аднагодкі,
        усе хлапчукі і дзяўчынкі.

Коўдры завей ранаватых
зазімкі сняжком паднаўлялі,
накрылі пагоркі,
раўніны,
ўзбярэжныя схілы,
каб не замёрзлі пад сцюжаю злоснай,
каб спалі салодка да весняй пабудкі,
даснілі сатканыя даўнасцю казкі,
                    якімі дзяцей забаўляюць.

Шмат казак забаўных
Расіне матуля згадала,

калі вечарамі, чакаючы бацьку,
яны за сталом пад бяссоннаю лямпай
сядзелі, аддаўшыся справе адказнай —
з пчалінага воску ляпілі
звярынец дамашні:
вавёрку і зайца,
лісу і мядзведзя,
сароку і дзятла.
Абжыўся ў звярынцы
і вожык калючы,
хоць быў ён васковы,—
саломка запалак пагрозна тырчэла
і вочы — дзве пацеркі яркіх —
зіркалі, як у жывога.
Звяры са стала
перайшлі на камоду,
птушкі туды
пераляцелі,
вожык патупаў на ножках кароткіх,
але, заглядзеўшыся на гаспадыняў гарлівых,
ледзьве не бухнуўся ўніз галавою.
Расіна яго падхапіла рукамі,
ў звярынец сама перанесла
і загадала на месцы стаяць нерухома.

— Санкі прыехалі!
Санкі прыехалі! —
радасна, ўзахапы
бацьку малая сустрэла,
ледзь ён у дзвярах паказаўся,
стомлены, потны, мурзаты,
але задаволены і шчаслівы.

— Даваў,— усміхнуўся Стазар,— абяцанкі,
не марна даваў. На, атрымлівай санкі,
а заўтра — на бераг Нязнанкі!

Санкі не беглі — ляцелі,
без крыл, як на крылах,
неслі Расіну з пакатага ўзгорку
па роўнядзі рэчкі,
скаванай упрыхап марозам,
а мо не скаванай — трохі прыкрытай,
за ноч прыцярушанай замяццю злёгку.

Расініны санкі —
навінка для юных —
ў непрыкмеці не засталіся,
і да ракі ў дзень наступны сабралі
дзяцей,
і дарослых,
і непаседаў,
і вечных марудаў,
а болей — аматараў людпай гамонкі,
ахвочых прадказваць,
хто будзе жвавейшы,
хто спрытных абгоніць,
хто рэчку па льду пераскочыць.

Такі чалавек у нас
з дня нараджэння:
руху імклівага — прагне,
дужасці мускулаў — прагне,
смеласці духу — прагне,
мэты высокае — прагне,
прагне і дасягае,
сэрца кідаючы часам
у полымя,
ў лютыя хвалі
ці пад варожыя кулі.

Снежань маруднае сонца
каціў над зямлёю

піжэй,
чым аседлыя птушкі лятаюць,
і трохі вышэй,
чым лес верхавінамі
неба зімой падпірае,
каб неяк зямля
не забрала свяціла
і не схавала ў патайнасці недзе,
як яблык —
апошні насеннік —
хаваюць,
сарваўшы
з апошняга дрэва.

Свяцілу было сцюдзёна,
а людзі,
абсыпаўшы бераг,
не адчувалі,
з якім самаімкненнем
нябёсаў Яго Высокасць
часцінкі цяпла
ад сябе адрывае,
даруючы сёстрам —
малодшым планетам —
і ўсім на планетах істотам
абы яны не зледзянелі,
абы дажылі да пары цеплавеяў.

Бераг шумеў,
мітусіўся,
ускрыкваў,
калі з малалеткаў хто-небудзь
на санках у снег зарываўся
ці сунуўся лежма без санак
да рэчкі,
ахоплены смехам.

Чарга падышла да Расіны.

Дзяўчынка — адно захапленне —
стаяла пад сонцам,
і шчочкі — пунсовыя макі —
гарэлі ад промняў,
                                        ад стыні,
                                                    ад хвалявання.
І ўся яна, рукі прыўзняўшы,
нагадвала зорную птушку,
гатовую смела даверыцца крылам
і паімчацца насустрач
                                              далечы
                                                часу,
                                                марам маленства.
Анэта падбегла,
пацалавала
дачушкіны шчокі
і, адпусціўшы Расіну,
захвалявалася ўтойна —
душой мацярынскай адчула
нядобрае штосьці...

Расіна,
праскочыўшы схіл узбярэжны,
далей паляцела
па глянцы ільду сіняватым
і мусіла прыпыніцца,
санкі прытармазіла,
а панцыр ракі нетрывалы
жудасна глянуў палонкай,
трэснуў,
                пачаў расступацца,
                і, скупа бліснуўшы пад сонцам,
дзяўчынку раптоўна
ў купелю забраў ледзяную...

Бераг абрынуўся,
кінуўся бегчы,
на лёд шурпаваты спускацца,
крычаць шматгалоса.
Тады ў бесказырцы, пацёртым бушлаце
Красан Жаваронак
нема скамандаваў басам:
— Спыніцеся! Стойце!!!

Людзі спыніліся,
людзі застылі на месцы.

Мігам былы балтыец —
ён ворага біў на вадзе
і бываў пад вадою —
па льду сігануў да палонкі,
скінуў бушлат на хаду,
на поўныя грудзі
паветра ўдыхнуў
і кінуўся
ў пролазь ракі віратлівай.

Хвіліна,
адна хвіліна
чакання,
няпэўнасці,
насцярогі
цягнулася, упрэгшыся ў вечнасць,
нарэшце з-пад ломкага лёду
смелага хлопца вярнула
з Расінаю, ледзьве жывою.
Бушлатам яе ахінуўшы,
Красан ад купелі падаўся
на бераг трывожных надзеяў,
у водсвет няласкавы сонца,
замглёнага смуткам балючым

людзей,
і зямлі,
і нябёсаў.

Хтось збегаў да фельчара за дапамогай,
але не рассталіся людзі з трывогай:
Расіна была непрытомнай, знямоглай.

Вярнуўся Стазар на паўстанак
з рэйсу, з дарогі далёкай,
дадому сабраўся,
не стомлены дужа
і ў добрым, як кажуць, гуморы.
Па вулцы паўстанкавай тупаў,
глядзеў на драўляныя зрубы,
што падраслі так прыкметна,
хаця і не доўга ў адлучцы
паездка яго пратрымала.
І ланцужком пацягнуліся думкі
да гарадка на Нязнанцы:
тут зрубаў не менш,
паднаўляюцца хаты,
на фабрыцы цэх дадатковы
для самаробчай машыны муруюць...

Свяціўся паўстанак,
і ланцужок, думак звенні звязаўшы,
іх да самай Масквы перакінуў.

Думкі назад, аж на год,
каляндар адлісталі
і дні незабыўнай зімовай часіны
нанова акрэслілі ясна.
Тая зіма не скупілася снегам
і мірнаму наваготдзю
пад ногі пярыны завеяў паслала.

З дбайнасцю шчырай
і паўнамоцным даверам народаў
іх пасланцы-дэлегаты
ў сталіцу спяшаліся
з бліжніх і дальніх абшараў краіны.
Воля мільёнаў гучала
ў наказах сваім дэлегатам:
з'яднацца ў адзіным Саюзе,
па згодзе,
па дружбе,
як вучыць усіх пралетарыяў Ленін,
і сэрцы і рукі самкнуць па-братэрску,
навечна быць разам
        у працы гарачай,
        у прагных імкненнях да шчасця,
        у слаўных паходах і бітвах
                                з ворагам лютым,
калі той захоча
сагнуць нас у крук,
жыццё спапяліць у ваенным пажары.

Выпадак шчасны
бацьку Расіны
з Масквою тады пазнаёміў:
у падарунак сталічным рабочым
Стазар па чыгунцы прывёз
скарб сціплы палёў,
у паноў адабраных,—
хлеб, працай руплівай здабыты.

Ён ехаў дадому,
а колы на рэйках
выстуквалі радасць сустрэч
        з вялізарнай сталіцай,
        з людзьмі на заводах,
        і дэлегатамі з'езда Саветаў,

што абвясціў аднадушна:
створаны воляй народаў
Саюз мнагамоўны
свабодных
і раўнапраўных
савецкіх рэспублік.

Падзея з падзей!
Свет убачыў у ёй
Волата нараджэнне.

Гісторыя наканавала
цяжкі яго шляху пачатак,
ды волатны сын яе
мужна на ногі падняўся,
плечы шырока расправіў,
дужасць з крыніцы братэрства
ўзяў для разгону
і рушыў наперад,
каб лёс перайначыць
людзей і дзяржавы.

І людзі душой пасвятлелі
вышэй на прыступку ўзняліся
ў сваім разуменні жыцця інтарэсаў.
Таму вечарамі
гудзе, нібы вулей, Нардом над Нязнанкай,
а ў школе б'е ў барабаны
першы фарпост піянерскі
і горн дзетвару заклікае
стаць побач з бацькамі,
па закліку партыі ўзняцца
на абнаўленне аблічча
краіны
з велічнай назваю —
СССР.

Прыдбаў у паездцы Стазар
любімай дачцэ падарунак —
ні цацкі, ні пернікі —
ліст каляровы, з якога
з-пад кепкі рабочай
свяціўся пагляд чалавека,
знаёмы і любы
працоўнаму люду планеты.

Добра ўяўляў ён, як на парозе дома
куртку рабочую скіне,
разгорне партрэт пры святле электрычным,
і радасць рукамі малымі
узніме пад столь аж Расіна
і скажа два словы:
— Ленін!.. Дзядуля!..

Скажа два простыя словы,
але іх паўтараць
і ёй адгукнуцца
мільёны жывых галасоў на планеце.

Мары...
О, як акрыляем мы імі
птушак надзей запаветных!
Ляцім,— куды хочам,
робім,— што ўздумаем,
гнёзды маленства свайго пакідаем,
каб чалавецтву прынесці
завязі гучных адкрыццяў,
доказы мудрых гіпотэз,
тайны глыбінь акіянскіх,
нетраў падземных,
сонечнай плазмы,
і Млечнага Шляху —
рэчышча даляў касмічных.

Марай падхоплены,
крочыў,
імкнуўся
чыгуначнік
радасці светлай насустрач,
імкнуўся, не ведаў,
што крочыць
у смутак,
у горыч,
у роспач,
што сціснуць яны абцугамі
у клетцы грудной яго сэрца,
плечы прыгнуць,
зрэнкі вачэй затуманяць
і,
мабыць,
за ноч снегавею —
ноч бессані,
ноч неспакою —
попелам скроні засеюць,
сівым,
як мінуласць,
як даўнасць паданняў.

На досвітку
ў дом да Фядосікаў
узрушанасць люд пацягнула —
старых,
маладзейшых
і юных,
якія за дзень учарашні
нібы пасталелі
і за дарослымі следам
ішлі з адной думай трывожнай:
Як там Расіна?
Ці апрытомнела дома?..

Прытомнасць вярталася
дужа марудна.
Свядомасць дзяўчынкі
то квола святлела,
то раптам знікала,
ўступаючы месца трызненню:
яна мармытала
пра мільгатлівую рыбку
з чырвонымі плаўнікамі...
Рыбка
на сонцы азызла,
срэбнай лускою бліснуўшы...
Потым з лускі
ўстаў люстэркавы зайчык...
падбег да Расіны
і, скачучы,
ўцёк на падлогу...
Малая цагналася з крыкам:
— Мамачка,
рыбку ўпусціла...

Забілася сэрца Анэты,
пакутліва вырваўшы лямант:

— Рыбанька-рыбка... Вочак іскрынка...
Радасць мая ты, Расінка...
Спі, супакойся, дзяўчынка!..

Пад раніцу толькі
пакінула бессань Расіну,
дрымота прыйшла пастунова,
змыкаючы лёгка павекі.
Стазар і Анэта,
ля ложка прысеўшы,
ўдваіх сцераглі
сон дачкі неспакойны.

Раней, чым заўсёды,
з начнога дзяжурства на ГЭС
вярнуўся й Красан Жаваронак.
Адчуў ён,
як кажуць, марацкай душою,
што над дзяўчынкай
бяда патайком навісае:
пасля ледзяное купелі
тлее ў грудзях, напэўна,
ачаг запалення лёгкіх,
і твар ад таго чырванее,
і сталі рухомыя ноздры,
і пачасцілася, бачна, дыханне.

Карцела яму падзяліцца
сваім меркаваннем
з бацькамі Расіны,
ды боязь
дачасна іх сэрцы азмрочыць
намер яго покуль стрымала.

А вестка нястрымна
пра ледзяную купелю,
пра самаахвярнасць Красана
ад схілаў нязнанскіх
у свет паляцела —
у вёскі, пасёлкі,
у гарады ўсяго краю,
і верылі людзі —
дойдзе яна да сталіцы
і трапіць у Крэмль, магчыма.

Нібыта ў пагоні за весткай,
дзікія коні зазімак —
завеі,
сарваўшыся з прывязі дзесьці,

прыспешвалі бег свой
па трактах,
прасёлках,
чыгунках —
па ўсіх неабдымных прасторах
спяшаліся,
неслі з сабою сумёты
і, круцячы белыя грывы,
трубілі трывожна,
склікалі
воўчыя пары — у гайні,
птушак — пад цёплыя стрэхі,
рыб — у глыбінныя сховы.

Потым вятры,
замарыўшыся бегам,
спыніліся,
сталі,
рыхтуючы спехам сустрэчу
галоўнаму майстру-малатабойцу
у царстве снягоў завірушных —
марозу.

Чакаць сябе доўга мароз не прымусіў,
з трэскам пайшоў па азёрах і рэках,
трываласць работы
сваіх папярэднікаў меншых праверыў
і, узмацняючы лютасць,
скляпаў на ільдах рубцаватых надломы
і трэшчын змяістых зігзагі,
і зеўры прамоін нячастых,
а тым, хто выходзіў падыхаць паветрам,
загадваў на рукі азяблыя хукаць,
і тупаць нагамі,
і шапкі з аўчыны на вушы насунуць,
каб без вушэй не застацца.

У крэпкіх абдымках марозу
заснула зямля
і Нязнанка, ільдом закаваная,
спала, здаецца, таксама.
Над ёю ж у доме на новым падрубе
каторую ноч ужо запар
змружыць вачэй павекі
нікому бяда не давала:
ачаг запалення ў Расіны,
прадказаны Жаваронкам,
не гаснуў — мацнеў, разгараўся,
нібы на падвеве агеньчык,
спакой у бацькоў і суседзяў
забраўшы надоўга.
Ні фельчара лекі,
ні ліпавы цвет,
ні маліна,
ні дзівасілу настой,
прыгатаваны жаночым умельствам
па даўніх рэцэптах бабуль,—
ніякія сродкі не мелі той сілы,
якая б для хворай прынесла палёгку.

Часам малышка ў гарачцы
на момант якісь засынала,
ды ў сон з мігаценнем
Нязнанка каціла сцюдзёныя воды,
нудна сваю калыханку
цягнула, ўздымаючы пырскі:

— Пасцель пасцялю табе
ў доннай наядзе —
ідзі да мяне!
Коўдрай накрыю паверх
ледзяною —
ідзі да мяне!

Рыбак пакліччу
на варту спакою —
ідзі да мяне!
Нікому цябе
не аддам без прымусу —
ідзі да мяне!

Домік на строме,
прыціхлы ў бядзе нечаканай,
вокнамі сумна свяціўся.
Сумотная прыціш
запаланіла й пакой,
куды да Расіны
прыходзілі блізкія людзі
са спачувальнасці словам
ці добрай парадай,
як навісь адвесці
бяды пагражальнай.

Бяду прадчувалі з усімі
і рэчы, і забаўкі ў доме.
Слязіліся шыбы,
наледзь цяплом адцясніўшы,
лямпа пад хусткай, накінутай зверху,
згубіла сваю прамяністасць.
А на камодзе самотна
ныў-гараваў
забаўны васковы звярынец:
зай і мядзведзь
лапы свае заламалі,
ліса і вавёрка
хвасты свае падагнулі,
сарока і дзяцел,
крылы свае апусцілі,
бо сум і крылатых
не акрыляе,

бо сум і магутных
курчыць без жалю,
бо сум і вясёлых
моўчкі катуе.

Праз суткі адлігу адчула зямля ўся.
Стазар на чыгунку ў паездку збіраўся.
З Анэтай Красан каля хворай застаўся.

Дзяўчынкіна сэрца
працягвала біцца.
І неадступна
працягвалі людзі змагацца
за ўратаванне жыцця
грамадзянкі маленькай
вялікай краіны,
дзе клопаты
пра чалавека —
яе неспакой неадольны,
яе прагавітасць імкненняў,
яе мацярынская дбаласць.

Жыццё!..
Мудрасць лічыць жыццё
праяўленнем у форме асобай
матэрыі вечнай,
і людзям даецца яно
не проста для існавання —
для дзейнасці ўсеабдымнай,
што сілай няўмольнай штурхае
род чалавечы наперад
з часіны яго зараджэння.

Не выпадкова
ўжо на пачатку жыццёвага шляху
мы роду людскога асобам,

хай хваравітым зусім,
хай падобным да кволай Расіны,
дорым кветкі,
усмешкі
і ласку пачуццяў,
вачэй не спускаючы, сочым,
як па лесвіцы ўзростаў
яны да свайго апагею сігаюць
праз спачувальнасць
і неспагадзь,
праз дабрыню
і зларадиасць,
праз заціпнасць
і нягоды —
абы не растраціць пражытага ёмкі набытак,
а перадаць, як эстафету,
будучым
пакаленням.

Прайсці з эстафетаю
час і адлегласць,
адлегласць і час —
такая ўладарная мара
суправаджала маленства дзяўчынкі.
Яна самастойнасці крокі зрабіла,
і радасць забаў,
і матуліну ласку спазнала,
але невядома,
ці пераможа хваробу,
каб несці далей запаветную мару.

З часу таго,
як бяду на рачулцы
ўчыніла ільдоў нетрываласць,
ніхто не цягаў сюды санак,
ніхто не выходзіў з канькамі

ні ў маразы,
ні цяпер, у адлігу.

Камусьці магло паказацца,
нібы гарадок перажыў узрушэнне,
вярнуўся зноў к звыкласці сталай,
хоць фельчар Расіне ўсё лекі прыносіў,
хоць роспыт вялі пра дзяўчынку кабеты,
хоць Жаваронак з дзяжурства заўсёды
спяшаўся да хворай.

Была ж акалічнасць,
якая парушыла звыкласць.
З чарговай нядальняй паездкі
прывёз клапатлівы Фядосік
дачушцы салодкі ласунак,
а землякам-гараджанам —
нумар газеты сталічнай.
Газета пісала
пра ГЭС на Нязнанцы,
пра ўсе ў гарадку абновы,
пра ўвішнасць работніц фабрычных,
пра подзвіг — падкрэслена гэта —
малойца ў матроскай цяльняшцы,
што кінуўся ў воды ракі зледзянелай,
жыццё ўратаваў малалетняй Расіны.

«Герой,—
заключала газета,—
Леніна справе адданы,
ў воласці першы электрык,
збіраецца стаць камуністам,
каб працаваць і змагацца
працоўным усім — на радасць,
буржуям усім — на гора».

Слухаў Красан
і пісанню не верыў,
не знаў,
што адзін з грамацеяў мясцовых
наважыўся ліст адаслаць у газету,
толькі прасіў падпісаць,
калі ўхвалены будзе,
хаця і ручаўся за чыстую праўду,
імем яго не сваім,
а інакшым,
як пішуць складальнікі кніжак,—
Філонам Нязнанскім.

Хто той Філон?

Покуль людзі гадалі,
у домік Стазара й Анэты
прыйшоў пасланец
ад мясцовай улады
з паведамленнем усхваляваным:
уранку Масква пазваніла,
па просьбе таварыша Леніна
пыталіся з Саўнаркома,
як зараз сябе адчувае
дзяўчынка Расіна Фядосік
і ў чым мо патрэбна
ёй дапамога.
Дадаў пасланец яшчэ:
пры пагаршэнні ў хворай здароўя
з воласці ў Крэмль тэлеграму
трэба адбіць неадкладна.

Дагэтуль з нязнанцаў
ніхто і не думаў,
што клопат трывожны
сям'і невялікай

ускалыхне столькі люду
і клопатам стане
Леніна і Саўнаркома.
Прасілі Фядосікі,
каб тэлеграмай
Леніна не турбавалі,
ён сам жа нядаўна
прыступ хваробы адужаў,
і дактары яму, мусіць,
захоўваць спакой прапануюць...

Яшчэ адна ноч стыла ў замеці белай.
Расіна, заснуўшы, паспакайнела,
а маці бяссонна над ёю сядзела.

Змора заплюшчыла вочы
ў Анэты перад світаннем
і, сон падчапіўшы ў нязнанасці недзе,
яе павяла да рачулкі.
Сніла кабета,
нібыта Расіна выйшла на бераг
не зімняй — вясновай парою,
стала пад волатам-дубам,
абвешаным мноствам шпакоўняў,
каб на крылатых сяброў падзівіцца,
гармідар птушыны паслухаць.
Грала вясна маладая
гімны дзяўчынцы вясёла
на гуслях струменяў,
на струнах праменных,
на салаўіных свісцёлках.

І ў гранні адвольным малая
да маці,
да роднай і крэўнай, прыпала,
сваёю маленькай рукою

ў матуліну моцна ўпілася
і, цягнучы ўпарта дадому,
прасіла, прасіла:

— Мамачка, ты не хвалюйся!
Любая, пойдзем!..
Я ўжо здаровая...
Дуб вунь мне сонца вяршалінай ловіць,
дуплом на мяне пазірае нягрозна,
густою лістотай шапоча,
прыемнае нешта шапоча...

Сінія сны світання,
з ніў падсвядомасці ўзнікшы,
ніколі нідзе не збываюцца
і нябыццю на парукі здаюцца,
ледзь зоры расплавяцца ў небе,
ледзь дзень
у гарластыя трубы затрубіць.
А сон мімалётны
Анэцінай бессані
не знік перад золкам барвовым,
у памяці жыць заставаўся,
каб збыцца.

Расіна, прачнуўшыся рана,
ўсміхнулася сонцу,
і маці,
і тату,
і дзядзьку Красану,
і ўсім, хто прыйшоў пасля ночы
дзяўчынку праведаць.

Была красамоўней за словы
тая світальная ўсмешка:
бяда адступіла!

Дні ўсё караценi,
іскрыліся снегам,
дзьмулі вятрамі,
часцей, чым дагэтуль,
патрэсквалі смела марозам.
Па вуліцах снежных
у рызманах, пашматаных аўчынах
калядніки знекуль пляліся
з «казою» рагатай.
Малая Фядосік,
прыткнуўшыся тварам к акенцу,
на дзівакоў паглядала,
бачыла прытупы «козкі»,
чула дзядзькоў прыгаворкі:

— Дзе «козка» нагою,
там жыта капою...
Выносьце, выносьце
скарб хатні — мучное!..

— Дзе «козачка» рогам,
там сенейка стогам...
Давайце, давайце
па кварце пітнога!..

Прайшлі казаводы,
а следам — адкуль толькі ўзяўся? —
праскочыў рамізнік.
У фаэтоне, бачылі людзі,
сядзеў незнаёмец.
Ніхто не заўважыў,
як каля млына
конь бег свой прыцішыў,
і незнаёмага позірк
усё навакола абшнырыў.
Млын дзённай парою

стаяў анямелы,
толькі гулі глухавата
над ім правады залатыя,
чакаючы вечара,
пуску дынама
ці
блізкай віхуры.

Дынама Красан запусціў
у час, як заўсёды, сутоння.
Святло разарвала
паўзмрок вечаровы
ў пакоях жытла,
над тратуарамі,
пляцам каля Народнага дома.
Нардом весяліўся,
на вечарынку сабраўшы
цікаўную моладзь:
звінелі цымбалы,
гармонік і скрыпка,
ім памагаючы,
ўцягвалі ў танцы і скокі
то пары,
то гурмы,
то ўсіх,
хто прыйшоў паплясаць
і папоўпічыне тым перашкодзіць
весці малебен калядны.

Раптоўна пад столлю
лямпачкі замігацелі,
быццам сігналілі,
білі трывогу.
Нехта сказаў:
— Непарадак
на станцыі, мабыць?

Спыніў вечарынку
напружаны голас,
і юнакі,
і дзяўчаты
пусціліся бегма
па вуліцы к млыну.

Не марнай была іх прыспешнасць.

На вадаёме
ля самай плаціны
з трыма чужакамі
змагаўся Красан Жаваронак.
Гош Тырба,
той незнаёмец,
што на рамізніку ўдзень праімчаўся,
бандыцкую шайку ўзначаліў,
у ледзяную купелю-палонку
задумаў электрыка кінуць,
помсцячы чорнаю помстай
за бацьку,
за млын,
забраны ў яго камунгасам.

Флота Чырвонага воін нядаўні
сустрэў небяспеку
рашуча і смела,
крывёю сцякаючы,
біўся
з бандыцкаю хеўрай,
стрыножыў хаўруснікаў Гошы,
а Гошу прымусіў сядзець у палонцы,
ды сілы байца пакідалі,
і ён, да будынка дапоўзшы,
святлом прасігналіў
пра небяспеку.

Склікала ўраз небяспека
цэлы натоўп на ўзбярэжжа.
Нехта з мудрэйшых параіў
моладзі ўзяць пад ахову
млын, дзе гудзела дынама,
стаць па-армейску на варту,
покуль прыедуць чэкісты,
возьмуць на допыт бандытаў.

Змрок халадэчаю дыхаў.
Тупалі людзі,
мароз белабрысы
нагамі таўклі, не шкадуючы сілы.
Хутка над рэчкай і дамбай
дымы навалілі густыя:
моладзь рашыла
ў змроку цяпельцы раскладваць,
каля кастроў саграваецца.

Ліжачы дол пабялелы,
кастры,
заравыя кастры замігцелі,
як над Нявою свінцовай
у ноч,
калі Ленін заклікаў
матросаў,
салдат
і народную ратнасць
рушыць на Зімні палац,
скінуць кайданы няволі
і ўладу аддаць назаўсёды
ў рабоча-сялянскія рукі.

На беразе вогнішчаў ззянне згасала.
Натоўп не змяншаўся. Над ім павісала,
імглілася гора: не стала Красана.

У горы збліжаюцца сэрцы.
У горы яднаюцца думы.
У горы сыходзяцца людзі.

І ў дзень зхаладзелы,
дзень горкай
з Красанам разлукі
цесна —
локаць да локця —
паставіла гора
людзей над труною,
слёзы —
    адток чалавечай пакуты —
з вачэй пакаціла па тварах
    юных і маладжавых,
    мужных і змардаваных,
    пакрытых барознамі часу — маршчынамі
    і шрамамі — сведкамі грозных паходаў.

Слёзы ліліся,
                ліліся
ў сумотнае мора нягоды,
і стала труна — як айсберг,
пасынак белых пустэльняў,
ад іх назаўжды адарваны,
аддадзены штормам на літасць
ці на бязлітаснасць прывіднай волі.

Час надышоў,
і мазольныя рукі
айсберг маўклівасці,
у зелень і чырвань убраны,
знялі з узвышэння —
ушанаванасці пастамента,—
трымаючы асцярожна,
нібы баючыся

нябожчыка сон патрывожыць,
дзверы ў зіму адчынілі,
і домік на новым падрубе,
прыплюснуты, як чарапаха,
тонучы ў горкіх рыданнях,
за спіны людзей затуліўся —
труна паплыла над Нязнанкай
на чорны пагост,
скуль крыжы і хваіны,
аброслыя даўнасці мохам,
косяцца позіркам падслепаватым
на гарадок і чыгунку.

Дзень праяўляў сваю зімнюю сталасць,
стаяў,
як васковая свечка,
кнот якой дагарае няўхільна
і ўскідвае ўгору агеньчык,
каб згаснуць
і кінуць у цемру адразу
тых,
каму светач патрэбны.

Калі да пагоста
труна падплывала,
неба імжылася, злёгку сінела,
затым матылёў параскідвала снежных,
замітусілася,
пух сыпанула,
з пухам зямлі надмагільнай змяшала,
а як прычытанні пачуліся,
ўсхліпы расстання з Красанам,
дыхнула ўпіз змрочнасцю адчужэння
на нябожчыка і магілу,
на крыжы і хваіны,
на гарадок і паўстанак,

куды ўжо ніколі-ніколі
адважнага хлопца
ногі не ступяць,
вочы не глянуць,
голас не прыйдзе,
жвірам навечна забраны...

Мы аддаём непазбежна даніну
прывычкам і завядзёнкам,
раднім іх з уласнай натурай,
ім падначальваем сэрцаў жаданні
і часу адлікі:
перад вандроўкай сядзім ля парога,
цалуемся пры сустрэчах,
на развітанне махаем рукамі,
а як пахаваем кагосьці,
стаім над магілай маўкліва.

І на апошнім прыстанку Красана —
на чорным пагосце —
даніна маўчання працэсію ўсю затрымала.
Дзень апусціўся дадолу,
а людзі стаялі,
падкраліся прыцемкі знекуль,
а людзі стаялі,
шчоўкнуў мароз затворам,
а людзі стаялі.
Людзі стаялі і слухалі,
як белым мядзведзем варушыцца вецер,
як шастаюць голымі кронамі дрэвы,
як на чыгунцы крычаць паравозы,
як юнака ў шлях няспынны гукаюць.

На кліч паравозаў
горн піянерскі
азваўся ў паўзмроку

галасам, крыху ахрыплым,
быццам прастуджаным на марозе.
Важак юнфарпоста
моўчкі пастроіў
сваіх хлапчукоў і дзяўчынак,
рады іх падвоіў і скіраваў
да гарадка на Нязнанцы.
Рушыла піянерыя,
доўг свой аддаўшы,
доўг горкай жалобы,
доўг развітання
з сябрам старэйшым
і змагаром за народнае шчасце.

Натоўп расступіўся:
убачылі людзі,
як з барабаншчыкам і гарністам
пад сцягам барвовым,
да птушкі агністай падобным,
ружовашчокая крочыць Расіна,
крочыць,
трымаючы перад сабою
партрэт чалавека,
чый позірк з-пад кепкі рабочай
сэрцы мільёнаў цяплом адарае
і ў радасці шумнай
і ў горы маўклівым...

Цемра адхлынула.
Над гарадком, над Нязнанкай
зноў праяснілася неба
ў агнях электрычных.
А недзе агні залатыя —
светачы ленінскай мары —
вечар запальваў зімовы
і ў вокнах Масквы незлічоных,

і ў гарадах,
і ў пасёлках —
паўсюдна ў прасторах
зямлі неабсяжнай савецкай.

Агні абнаўлення!..
Заняўшыся на папялішчах,
святло іх мацнела,
сілу ўліваючы ў поступ краіны,
каб крылы, як фенікс міфічны,
наўшыркі яна распраўляла,
да мэты, акрэсленай геніям Леніна,
імкліва ляцела,
ляцела наперад,
руху заўжды падуладная
з куляй зямною,
з вогненным сонечным шарам,
з безліччу зорных галактык.
І каб зямля яе
аніколі
не ведала апусташэння,
была
і багатай,
і дужай,
і светлай,
славіла росквіт жыцця
пад агнём прамяністым,
якім саграваецца наша планета
ў касмічнай халоднай пустэчы.

...Навекі вякоў,
покуль агонь жыватворны
на гэтай зямлі не згасае,
быць і жыццю, як агню, незгасальным!

## ЗМЕСТ

**Калачынскі М.**

К 17 Да берагоў запаветных: Кн. лірыкі.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 142 с.

У пер.: 80 к.

Паэзія старэйшага беларускага паэта Міхася Калачынскага заўсёды надзённая. Дыханне дня адчуваецца ў вершах, прысвечаных і хлебаробам, і народным паэтам Беларусі Якубу Коласу і Янку Купалу, і палётам у космас нашага земляка Уладзіміра Кавалёнка. У зборнік увайшлі вершы пра партыю, гераічную Савецкую Армію, радкі пра каханне.

Паэма «Ледзяная купеля» прысвечана паслярэвалюцыйнай Беларусі.

К $\frac{4702120200-073}{М 302(05)-83}$ 55—83

ББК 84Бел7
Бел 2

МИХАИЛ ИВАНОВИЧ КАЛАЧИНСКИЙ

К БЕРЕГАМ ЗАВЕТНЫМ

Книга лирики

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *Ю. М. Цюрын*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*
Карэктар *В. М. Хлебавец*

ІБ № 1700

Здадзена ў набор 25.01.83.
Падп. да друку 07.04.83. АТ 08579.
Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1.
Гарнітура звычайная новая.
Высокі друк.
Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,41.
Ул.-выд. арк. 6,03. Тыраж 6000 экз. Зак. 3313.
Цана 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта БССР па справах
выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа.
220005, Мінск, Чырвоная, 23.